










АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

15 сакавіка 2000 года
Цана 70 рублёў

№ 11 (2673)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ. "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ" — 45

## УКРАІНА

Шаноўная спадарыня рэдактар газеты "Голас Радзімы"! Прыміце словы шчырай падзякі ад мяне асабіста, а гэтаксама ад удзельнікаў гурта беларускай культуры "Зорка Венера" з украінскага горада Ізяслаў, што на мяжы Хмяльніцкай і Ровенскай абласцей, за самаадданую працу калектыву рэдакцыі. Калі з рэдакцыі пайшлі добра нам вядомыя і паважаныя ў дыяспарах далёкага і блізкага замежжа спадары Вацлаў Мацкевіч ды Дзіяна і Вераніка Чаркасавы, было пачуццё разгубленасці, нечага страчанага беспаваротна. Скажу шчыра, што першыя нумары газеты пад Вашым, спадарыня Наталля, кіраўніцтвам, асабіста я пераглядваў ды перачытваў без асаблівага энтузіязму. Гэта й не дзіўна: усё новае, што прыходзіць на змену старому, падлягае, так бы мовіць, жорсткай і пільнай "цэнзуры" чытача, які ведае гэтую газету амаль 30 гадоў! Але нічога страшнага не здарылася, паволі пачалі вяртацца павага і цікаўнасць, і гэты мой першы ліст у рэдакцыю пасля амаль двух гадоў маўчанкі — таму яркае пацвярджэнне! Асабліва хочацца парадавацца за спадара Яўгена Лецку: яго артыкулы чытаюцца ў першую чаргу, абмяркоўваюцца беларусамі Ізяслава. Не засталіся па-за нашаю ўвагай і артыкулы Галіны Уліцёнак, Міколы Дзелянкоўскага, Таццяны Храпінай, Алены Спасюк, Юрася Ляшкевіча ды шэрагу іншых. Усё гэта гаворыць пра тое, што рэдакцыя ў надзейных руках, што ў ёй працуюць людзі высокай кваліфікацыі, сапраўдныя прафесіяналы сваёй справы.

Асабліва ў мяне, як у філолага ды нядрэннага знаўцы беларускай мовы, ёсць да калектыву рэдакцыі адна толькі заўвага. Трэба ачышчаць нашу старадаўнюю, непаўторную і самабытную мову ад усялякіх русізмаў, паланізмаў і іншых нагрувашчванняў, неўласцівых нашай мілагучнай мове!..

Яшчэ раз дзякуй за цікавую газету!

З павагай —

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг, кіраўнік гурта "Зорка Венера".**

НАВУКА Ў АСОБАХ

# ЧАС ЗДЗЯЙСНЕННЯЎ І НАДЗЕЙ

Мінулы год можна назваць годам беларускай навукі, якая сама па сабе знамянуе найвышэйшае дасягненне народа. Бо, азіраючыся назад, без перабольшання можна сказаць, што гэта стварэнне, нарадзіўшыся 70 гадоў таму, сіламі і намаганнямі лепшых розумаў Бацькаўшчыны ператварылася ў з'яву сусветнага значэння і вылучыла нацыю ў перадавыя шэрагі планетарнай інтэлектуальнай эліты.

Ці можна гэтак ацаніць значэнне акадэміі? З поўным правам! Бо да таго моманту, як быў заснаваны Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт), які стаў у 1922 годзе зародкам Беларускай акадэміі, сістэматычных, арганізаваных, аб'яднаных адзінай мэтай навуковых даследаванняў на Беларусі не вялося. Гэта не азначае, што дагэтуль яна была адзначана навуковай бясплённасцю, адсутнасцю таленавітых навукоўцаў. Яна і дагэтуль нараджала знакамітых даследчыкаў, гуманітарыяў-асветнікаў, якія станавіліся нават знакавымі постацямі эпохі. Досыць назваць Ефрасінню Полацкую, Кірылу Тураўскага, Францішка Скарыну, Сымона Буднага, Сімяона Полацкага, Адама Міцкевіча...

Напрыканцы XIX і пачатку XX стагоддзяў успыхнула новае сузор'е талентаў беларускай культуры і навукі.

Аднак менавіта Беларуская акадэмія навук паклала пачатак сістэматычным шыракапланавым даследаванням ва ўсіх галінах навукі і асабліва пачатак яе фундаментальнаму сектару, што дабіўся прызнання ўсім навуковым светам. Нават у сённяшніх цяжкіх умовах эканамічнага існавання краіны быў запушчаны нейтронны генератар, які адкрывае новыя вялікія магчымасці для далейшага глыбіннага спазнання ўласцівасцей матэрыі. Генератар — шосты па ліку на зямлі.

Вось чаму пра 70-гадовы юбілей акадэміі можна гаварыць як пра падзею для ўсяго беларускага народа.

Пад рубрыкай "Навука ў асобах" мяркуем паказаць нашу навуку праз дзейнасць вучоных, якія ўнеслі значны ўклад у яе развіццё, сталі арганізатарамі новых навуковых даследаванняў, заснавальнікамі новых навуковых накірункаў і школ.

4 стар.

**Раальд ЛЕВІН.**

# БЕЛАРУСЫ СВЕТУ!



# ПАКЛАНІЦЕСЯ ДРУЦКУ...

● **Мікалай ЛОБАЧ**, *кандыдат эканамічных навук, доктар філасофіі Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій (Масква).*

● **Рыгор ЛЯНЬКЕВІЧ**, *кандыдат філасофскіх навук (Мінск).*

На жаль, сёння нашчадкі могуць пабачыць толькі адзін рукапіс — Друцкае евангелле XIV стагоддзя (рукапіс яго захоўваецца ў Новасібірску). Даследчыкі называюць яго "жамчужынай" старажытных рукапісаў. Упершыню ўвесь яго тэкст будзе надрукаваны ў кнізе "Старажытны Друцк", якая рыхтуецца да выдання ў Беларускай Энцыклапедыі. Шматлікія рэчы, знойдзеныя ў Друцку, адносяцца да праваслаўнага культу. Сярод іх нацельныя крыжыкі, крыжы-энкалпіёны, вечкі і інш., а таксама рэшткі бронзавага хораса (царкоўнай люстры) і самой пабудовы царквы — паліваныя пліткі, якімі звычайна масцілі падлогу. Гэтыя пліткі моцна абгарэлі, што сведчыць аб вялікіх пажарах у горадзе. Магчыма, гэта рэшткі царквы Святой Багародзіцы, якая была пабудавана ў горадзе ў 1001 годзе.

З вялікай верагоднасцю таксама можна меркаваць, што "праваПераемніцай" царквы II стагоддзя стала царква з такой жа назвай у XIV стагоддзі. Менавіта ў гэты храм князь Васіль Міхайлавіч і яго жонка Васіліса ўклалі Друцкае евангелле. Такім чынам, можна сцвярджаць, што князь і яго жонка праз смугу 7 стагоддзяў перадалі нам "благія весці" аб падзеях, якія адбываліся ў пачатку не толькі II, але і I тысячагоддзяў нашай эры. Гэтую духоўную эстафету мы проста абавязаны адправіць сваім нашчадкам у III тысячагоддзе, аднавіць царкву святой Багародзіцы ў Друцку. План аднаўлення старажытнага храма падтрымалі Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Аляксій II, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт, беларускія касманаўты У. Кавалёнак, П. Клімук і іншыя вядомыя і ўплывовыя людзі. Аднак на рэалізацыю гэтай святой справы пакуль не хапае сродкаў. І тут пытанне да ўсіх беларусаў свету: ці здолеем мы сабраць такія сродкі (усяго 50—70 тысяч долараў ЗША), каб аднавіць царкву Святой Багародзіцы, што потым паможа адрадзіць старажытны горад Друцк, а ўвогуле і хрысціянскія духоўныя традыцыі?

Прозвішча кожнага, хто аддасць на адраджэнне Друцка пэўныя сродкі, трапіць у сучасны летапіс старажытнага паселішча, ён будзе захоўвацца ў пабудаваным храме, у музеях Друцка і іншых гарадоў былога Друцкага княства. А хто-небудзь, магчыма, рашэннем улады за значны ўклад у адраджэнне старажытнага горада будзе ўдастоены і ганаровага дадатку да свайго прозвішча — Друцкі. Вялікая надзея ў гэтай справе на суайчыннікаў з Нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Расіі", а таксама на беларусаў іншых краін, на тых, хто помніць пра сваю гістарычную Радзіму Беларусь, пра свае вытокі і карані.

**Беларусы свету! Няўжо мы страцілі жаданне пакланіцца святой старажытнай зямлі? Няўжо мы не зможам зберагчы для нашчадкаў памяць пра адзін з найбольш старажытных гарадоў Беларусі! Няўжо мы не здолеем грамадой аднавіць праваслаўны храм і з пачуццём уласнай годнасці адзначыць вялікі гістарычны юбілей роднай зямлі — 1000-годдзе Друцка! Мяркуем, што гэта пачэсная справа знойдзе сваіх руплівуцаў у многіх краінах свету.**

(Заканчэнне. Пачатак у №10).

**РАЗЛІКОВЫЯ РАХУНКІ**

**Беларускія рублі**

ААА "Белпрамбудбанк", Талачынскае аддзяленне
№ 3015000820014
МФО 150801327 УНН 300601981 ОКПО 29090644

**Расійскія рублі**

ААА "Белпрамбудбанк", Талачынскае аддзяленне
№ 3015000820014/858
МФО 150801327 УНН 300601981 ОКПО 29090644

**Валютны рахунак**

ААА "Белпрамбудбанк", Талачынскае аддзяленне
№ 3015000820014/001
МФО 150801327 УНН 300601981 ОКПО 29090644

***Указаць у плацёжным даручэнні: "Ахвяраванне на будаўніцтва храма ў вёсцы Друцк".***

СВЕЦКАЕ ЖЫЦЦЁ

## АДНА З СУСВЕТНЫХ "ЗОРАК", ЯКАЯ АБ'ЯВІЛА АБ СВАІХ ЗАРУЧЫНАХ, МАЕ БЕЛАРУСКІЯ КАРАНІ

● **Вячаслаў ДУТАЎ**, БелТА.

Дзве расійскія "зоркі" сусветнага спорту, з якіх адна мае беларускія карані, вырашылі аб'яднаць свае лёсы. Гэта славуты хакеіст Павел Бурэ і чароўная тэнісістка Ганна Курнікава.

Аднак гэта знамянальная падзея ў жыцці двух выдатных спартсменаў крыху сумна напярэдадні жаночага свята ўспрынялі цудоўныя беларускія дзяўчаты, цалкам дастойныя выбару свайго земляка. Сапраўды, Павел па матчынай лініі беларус, у Мінску жыве яго бабуля, і ён пры кожнай магчымасці разам з мамай імкнецца прыехаць сюды.



А заручыны адбыліся ў адным з рэстаранаў Маямі (ЗША). Згодна з паведамленнямі, спартсмен зрабіў прапанову, як сапраўдны рыцар: стаў на калена на вачах ашаломленых наведвальнікаў рэстарана. Аня без ваганняў адказала: "Згодная".

Павел Бурэ, якога называюць "рускай ракетай", і Ганна Курнікава — суседзі. Яны жывуць у Маямі ў комплексе вышынных будынкаў: Павел займае там 40-вы і 41-шы паверхі, а Аня жыве трыма паверхамі вышэй.



# БЕЛАРУСКАЯ НАФТА

**35 гадоў назад пачалася прамысловая распрацоўка нафты на першым у Беларусі Рэчыцкім месцараджэнні.**

**НА ЗДЫМКУ: рэчыцкія нафтаразведчыкі ўспомнілі старую традыцыю нафтавікоў — вымазваць адзін аднаго толькі што здабытай нафтаю.**

**БелТА.**



МІЖНАРОДНЫЯ СТАСУНКІ

## СУПРАЦЬ СНІДу — РАЗАМ

У Мінску праведзены шэраг мерапрыемстваў па барацьбе з эпідэміяй ВІЧ.

Адбылася канферэнцыя "Вынікі дзейнасці праекта "Падтрымка рэалізацыі нацыянальнага стратэгічнага плана па прафілактыцы распаўсюджвання СНІДу на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь". Прайшоў таксама рэспубліканскі адукацыйны семінар, прысвечаны распрацоўцы новага нацыянальнага стратэгічнага плана па прафілактыцы СНІДу ў Беларусі.

Акрамя Міністэрства аховы здароўя і Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу, у семінарах узялі ўдзел прадстаўнікі больш чым дзесяці міністэрстваў немедыцынскага накірунку. Сярод іх — МУС, Міністэрства адукацыі, нават Міністэрства чыгункі. Гэта, як адзначыў Леў Хадакевіч, кіраўнік Еўрапейскага бюро Аб'яднанай праграмы ААН-СНІД, неабходна, бо толькі сумеснымі намаганнямі можна стрымаць распаўсюджванне эпідэміі.

Якое ж сёння становішча ў нашай краіне? На 1 студзеня 2000 года ў рэспубліцы было зарэгістравана 2 752 выпадкі захворвання на ВІЧ-інфекцыю. Нягледзячы на некаторае зніжэнне колькасці інфіцыраваных у 1997—1999 гадах, захоўваецца небяспека актыўнага распаўсюджвання віруса сярод наркаманаў.

Спадар Бунэ, прадстаўнік ААН у Беларусі, паведаміў, што падчас візіту дэлегацыі Сусветнага банка ў Мінск разглядалася пытанне аб прадастаўленні нашай дзяржаве сродкаў для ажыццяўлення мерапрыемстваў па прафілактыцы СНІДу. Гэта будзе першы крэдыт, выдзелены Беларусі за апошні час. Сітуацыя з "чумой XX стагоддзя" ў Беларусі сур'ёзна клапоціць прадстаўнікоў міжнародных арганізацый.

**Ілля ДОГЕЛЬ.**

МЕРКАВАННЕ

## УСЁ МЕНШ БЕЛАРУСАЎ ПАКІДАЮЦЬ РАДЗІМУ Ў ПОШУКАХ ЗАРОБКУ

● **Віктар ШЫМОЛІН**, БелТА.

**Паводле звестак, атрыманых БелТА ў камітэце па працы Мінгарвыканкама, ужо ў 1999 годзе практычна спынілася накіраванне суб'ектамі гаспадарання Мінска беларускіх грамадзян на работу ў Польшчу.**

**Назіраецца і паступовае скарачэнне колькасці працоўных-мігрантаў, якія выязджаюць у Чэхію. Калі ў 1997 годзе ў гэту краіну выехалі 564 чалавекі, то ў 1998-м — 179, у мінулым — 123 чалавекі.**

— Мы пастаянна займаемся пытаннямі, звязанымі з працаўладкаваннем грамадзян Мінска за мяжой, — заявіў старшыня камітэта па працы Мінгарвыканкама Тадэвуш Пабяржын, — бо гэта дае магчымасць змякчаць сітуацыю з беспрацоўем у сталіцы, павышаць дабрабыт мігрантаў. Да таго ж тыя, хто выязджае за мяжу, удасканальваюць там прафесійнае майстэрства, асвойваючы больш сучасныя метады і прыёмы працы. Ліцэнзіі камітэта міграцыі пры Міністэрстве працы рэспублікі на працаўладкаванне грамадзян краіны за яе межамі маюць у Мінску 39 суб'ектаў гаспадарання. У 1999 годзе імі накіравана за межы рэспублікі 2 162 чалавекі, а гэта на 126 менш, чым у 1998 годзе. Прычынай сталі праблемы ў пошуку замежных партнёраў і ў заключэнні ўзаемавыгадных кантрактаў з замежнымі работадаўцамі. Выправіць сітуацыю можна толькі на ўзроўні міжурадавых пагадненняў аб абмене рабочай сілай, лічыць Тадэвуш Пабяржын. У адваротным выпадку дзейнасць беларускіх фірм-пасрэднікаў абмяжуецца выкананнем маладзёжных праграм і накіраваннем будаўнікоў, у асноўным у Расію.

АКТУАЛЬНАЯ ГУТАРКА

# ДРУГОЕ ДЫХАННЕ «ВЕДАЎ»

**Асветніцкая грамадская арганізацыя "Веды" была створана ў 1947 годзе, калі рэспубліка падымалася ад пасляваеннай разрухі. Нягледзячы на шматлікія жыццёвыя і бытавыя праблемы, жыхары Беларусі прагна цягнуліся да ведаў, да інфармацыі. У той час былі вельмі распаўсюджаны лекцыі навукова-пазнавальнай тэматыкі, лекцыі аб міжнародным становішчы.**

**Прайшло шмат гадоў. Змянілася жыццё. З'явіліся разнастайныя магчымасці атрымліваць інфармацыю, але папулярнасць "Ведаў" амаль не зменшылася. У чым сакрэт! Аб гэтым наша размова з першым намеснікам старшыні праўлення рэспубліканскай грамадскай арганізацыі "Веды" Канстанцінам УКРАІНЦАМ.**

— Не так усё проста. Пераход да рынкавых адносін стаў цяжкім выпрабаваннем для нашай арганізацыі.

Да "перабудовы" была створана зладжаная сістэма інфармавання, прапаганды і навучання. І ў гэтай сістэме сваю нішу займалі "Веды". Актывісты арганізацыі з ліку вядомых вучоных, дзеячаў культуры праводзілі на прадпрыемствах, ва ўстановах культуры, школах лекцыі, якія заўсёды збіралі шмат слухачоў. Былі створаны народныя універсітэты — сапраўдныя навуковыя ўстановы, у якіх навучанне працягвалася некалькі гадоў і ў якіх можна было атрымаць сур'ёзныя веды па праву, эканоміцы, сельскай гаспадарцы і гэтак далей.

А ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў усё распалася. Не стала галоўнага заказчыка — партыйных органаў. У выніку большасць гарадскіх, раённых структур "Ведаў" спынілі сваю дзейнасць, многія актывісты пакінулі арганізацыю. На рынку навучальных паслуг з'явіліся камерцыйныя ўстановы, якія пачалі займацца той работай, што і мы — інфармаваннем і адукацыяй. Каб выжыць, прыйшлося перабудоўваць усю сістэму нашай арганізацыі, шукаць новыя формы працы. І мы справіліся з крызісным становішчам. Памятаеце, у пачатку 90-х быў сапраўдны бум на некаторых спецыялістаў: бухгалтараў, сакратароўрэферэнтаў, касметолагаў, фітадызайнераў і іншых. Мы таксама праз гэта прайшлі. На розных курсах было падрыхтавана каля 17 тысяч спецыялістаў. Займаліся мы гэтым сур'ёзна і, дзякуючы добрай арганізацыі і высокакваліфікаваным выкладчыкам, нашы курсы карысталіся папулярнасцю.

— *А чым "Веды" займаюцца цяпер?*

— Калі коратка, то асветніцтвам. Задача застаецца ранейшай — несці веды людзям. У нашай дзейнасці адукацыя і асвета зліваюцца ў адно цэлае. Мы вядзём перападрыхтоўку кіраўнікоў прадпрыемстваў, іх намеснікаў, спецыялістаў эканамічных, фінансавых, кадравых службаў. Працуем напрамую з заказчыкам, сумесна з ім распрацоўваем праграмы навучання. Галоўнай фігурай у навучальным працэсе з'яўляецца спецыяліст, які працуе ў органах кіравання і валодае карыснай інфармацыяй. Толькі ў мінулым годзе правялі звыш 200 семінараў, на якіх навучалі амаль 18 тысяч чалавек.

Магілёўская абласная арганізацыя "Веды" плённа супрацоўнічае з абласнымі структурамі па прыродаахоўнай тэматыцы. Абласныя ўлады выдзяляюць сродкі з бюджэту на экалагічнае выхаванне моладзі. Вучоныя, выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў, спецыялісты аблвыканкама праводзяць канферэнцыі, семінары, экспрэс-універсітэты, дні экалагічных ведаў, тэматычныя вечары.

"Веды" скарыстоўваюць любыя магчымасці, каб захаваць асветніцкую дзейнасць. У Віцебску, Оршы, Полацку працягваюць працаваць народныя універсітэты здароўя, якімі многія гады кіруюць дактары медыцынскіх навук, прафесары М. Сачак, М. Нікольскі, Н. Гурына. Ёсць многа іншых прыкладаў.

Асобую ўвагу мы звяртаем работу са сталымі людзьмі.

ВЫНАХОДНІЦТВЫ

Стварэнне на тэрыторыі вобласці свабоднай эканамічнай зоны "Ратон-Гомель" актывізавала навукова-даследчую працу вучоных Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны. Многія навуковыя распрацоўкі, прапанаваныя імі, ужо знайшлі практычнае прымяненне на прадпрыемствах.

НА ЗДЫМКУ: тэхналогію лазернай рэзкі сталі па заказу свабоднай эканамічнай зоны "Ратон-Гомель" распрацоўваюць дэкан фізічнага факультэта Сяргей ШАЛУПАЕЎ (справа) і вядучы навуковы супрацоўнік Віктар МЫШКАВЕЦ.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**



ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

**Як жа на самай справе ацэньваюць свой матэрыяльны і духоўны набытак жыхары сучаснай сельскай глыбінкі на Магілёўшчыне! Нямала іх па волі чарнобыльскага лёсу памянялі адну пастаянную прапіску на іншую. Пагаворым з людзьмі пенсійнага ўзросту — Васілём і Ірынай ПАРЧЭЎСКІМІ з "пахаванай" вёскі Вётухна Касцюковіцкага раёна.**

— Багатыя мы людзі, а як жа інакш, — скажа, як адрэжа, Васіль Яфімавіч.

— Гаспадару не запярэчыш, — у знак згоды ўсміхаецца Ірына Еўдакімаўна.

Як ні горка-соладка дабывалі яны па жыцці хлеб-соль, а вось сямёра дзяцей ды чатырнаццаць унукаў на ногі паставілі.

— Навошта нам тыя брыльянты, — дзеліцца своеасаблівымі рэцэптамі заможнага жыцця Васіль Яфімавіч.

— Аднаго тэлевізара ў хаце дастаткова, а вось адно дзіця ў бацькоў як бядняксіраціна.

Трывалыя сувязі з зямлёю ў калгаснага брыгадзіра Васіля Парчэўскага: дзве дачкі і пяцёра сыноў, як кажуць, горы маглі скрануць з месца. Любая праца была пад сілу дружнай сям'і. Таму моцная гаспадарка Парчэўскіх на шыі ў дзяржавы ніколі не сядзела. І бульбу, і мяса, і малако з сырам, ды і ўвесь астатні набор прадуктаў харчавання сям'я атрымлівала з уласнага падвор'я. Гэта пры тым, што не заўсёды хапала часу Васілю і Ірыне Парчэўскім, каб справіцца як след з хатняй гаспадаркай: усё жыццё, кожны світанак трэба было бегчы на працу ў калгас. Сялянская закваска Васіля Яфімавіча, памнажаная на прыродную кемлівасць, даюць усе падставы сцвярджаць, што толькі праца ды бацькоўскае выхаванне змаглі вывесці дзяцей у людзі. Асаблівы гонар — сыны. Анатоль — выпускнік ваеннай акадэміі, Мікалай і Уладзімір — кіраўнікі прадпрыемстваў, Васіль — інжынер на адным з харчовых прадпрыемстваў. А вось Іван прыняў эстафету ад старэйшага брата Уладзіміра і ўзначаліў перасяленчы калгас "Някрасава" Круглянскага раёна. Дарэчы, зараз гаспадарка па эканамічных паказчыках — адна з лепшых на Кругляншчыне. У цэнтр гаспадаркі, вёску Філатава, перасяліліся пасля чарнобыльскай навалы Васіль Яфімавіч з Ірынай Еўдакімаўнай.





Патрэба ў дадатковай адукацыі вялікая. Яна звязана з новым заканадаўствам, з неабходнасцю ведаў і практычных навыкаў для прафілактыкі і падтрымання здароўя, адаптацыі да ўмоў рыначнай эканомікі, вядзення хатняй гаспадаркі і гэтак далей. У Мінску мы працуем сумесна з Домам ветэранаў, дзе кожны месяц арганізоўваем лекцыі на медыцынскую, прававую тэматыку, курс "Сад і агарод".

Частка зароблены сродкаў (а мы самастойнае разліковае прадпрыемства) выдзяляецца на развіццё асветніцкай дзейнасці. Прэстыж арганізацыі "Веды" менавіта ў тым, што мы працуем з вядучымі вучонымі. Без навукі ў нас няма перспектывы.

*— У чым вы бачыце галоўную асветніцкую задачу?*

— У кожнага з нас асобую трывогу выклікаюць тэндэнцыі, што складваюцца ў духоўна-маральнай сферы. Перамены ў грамадстве аказваюць уплыў на адносіны паміж людзьмі, ставаць пад сумненне сістэму каштоўнасцей і маральных стандартаў. Нельга дапусціць, каб рыначныя пераўтварэнні размылі і знішчылі чалавечыя вартасці і ідэалы, што сфарміраваны многімі пакаленнямі. І тут галоўнай мэтай з'яўляецца праблема выхавання грамадзяніна, патрыёта. XIII з'езд таварыства вызначыў галоўныя напрамкі ў рабоце "Ведаў": грамадзянска-патрыятычнае і духоўнае выхаванне, фарміраванне сацыяльна-эканамічнай, прававой, экалагічнай культуры. Вядомыя вучоныя рэспублікі згадзіліся ўзначаліць адукацыйныя і асветніцкія праграмы. Сярод іх акадэмікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Я. Бабосаў, І. Ліштван, доктар эканамічных навук, прафесар, намеснік міністра эканомікі А. Тур, доктар юрыдычных навук, прафесар БДУ В. Чыгір і іншыя.

Усім нам патрэбна пераарыентаваць нашу дзейнасць на Чалавека, вярнуць яму веру ў сацыяльную справядлівасць, годнае жыццё, нацыянальныя святыні. Калі мы гэта зробім, то можам разлічваць і на эканамічны прагрэс у рэспубліцы.

***— Жадаем здзяйснення вашых высакародных планаў, і хай "Веды" будуць трывалымі.***

**Таццяна КУВАРЫНА.**

## ВЫНІКІ...

**ТЭМА АБМЕРКАВАННЯ — ІНФАРМАЦЫЙНЫЯ ТЭХНАЛОГІІ.** У актавай зале Беларускага аграрна-тэхнічнага універсітэта адбыўся расшыраны сход правадзейных членаў і членаў-карэспандэнтаў Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій. Сёння МАІТ — шырока вядомая навуковая ўстанова. Яна мае свае аддзяленні ў многіх краінах Еўропы, Азіі, Афрыкі.

З аналізам вынікаў года выступіў прэзідэнт МАІТ Г. Маньшын, які даў падрабязную карціну дасягненняў членаў акадэміі, пазнаёміў з канцэпцыяй даследаванняў на XXI стагоддзе, якая вызначаецца беспрэцэдэнтна новымі інфармацыйнымі тэхналогіямі.

Дакладчык выказаў упэўненасць у далейшых поспехах навукоўцаў, цвёрдым апірышчам якім служаць вынікі ўжо зробленага. Гэта больш як сто ажыццёўленых праектаў, даследаванняў, вынаходак, запатэнтаваных кампетэнтнымі службамі розных дзяржаў. Сярод іх вызначаюцца інфармацыйныя тэхналогіі ў галіне генетыкі, аграрных навук, сістэм кіравання.

Па дакладу адбылася ажыўленая дыскусія.

Спіс акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў МАІТ папоўніўся новымі навукоўцамі.

У рабоце сходу прынялі ўдзел члены егіпецкага прадстаўніцтва МАІТ.

**Раальд ЛЕВІН, член МАІТ.**

## І ПЕРСПЕКТЫВЫ

**"ЛЕСНІКІ" ПРАЦУЮЦЬ НА ЭКСПАРТ.** Лесаводы краіны падсумавалі вынікі мінулага працоўнага года. Са станоўчага было адзначана, што экспартнае заданне выканана на 107 працэнтаў. Прынамсі, гэта адзіная ў рэспубліцы галіна, якая дасягнула такога паказчыка. Добра папрацавалі лесаводы і ў іншых напрамках сваёй прафесійнай дзейнасці. Так, рост аб'ёмаў вытворчасці ў суадносных цэнах да ўзроўню мінулага года перавыканаы на 11 працэнтаў, больш, чым планавалася, нарыхтавана ліквіднай драўніны, замест 25 тысяч 400 гектараў новых лясоў, якія намячалася высадзіць, маладыя парасткі зазеленелі на 26 тысячах гектараў.

**Аляксандр ДЫНІКАЎ.**

## ЛЕГЕНДЫ АЙЧЫННАГА СПОРТУ

# ТРАПНЫ ВЫБАР Віктара ІВАНОВА



Алімпіяда... Што яна значыць у жыцці спартсмена? Бадай, яе можна параўнаць з вялізнай гарой. Каб пакарыць яе ад падножжа да вяршыні, дадзены тэрмін — чатыры гады. І узыходжанне ператвараецца ў самую важную падзею жыцця. Так крок за крокам, пераадольваючы чарговую прыступку, спартсмен падымаецца ўгору. Нехта сыходзіць з дыстанцыі. Застаюцца тыя, хто здольны завяршыць справы.

Сёння хачу вам расказаць пра старшага трэнера нацыянальнай зборнай Беларусі па кулявой стральбе Віктара Пятрова. Віктар — заслужаны спартсмен, майстар спорту міжнароднага класа. Адзінаццаціразовы чэмпіён Савецкага Саюза, шматразовы чэмпіён міжнародных спаборніцтваў, чэмпіён Еўропы. 33 гады выходзіў ён на старт у якасці спартсмена і 17 гадоў у ролі трэнера, 12 гадоў сумяшчаў гэтыя дзве ролі.

А з чаго ўсё пачалося? Выпадак прывёў 15-гадовага хлопчыка ў секцыю кулявой стральбы. А ўжо праз год Віця Пятроў выканаў нарматыў майстра спорту. Гэта было ў 1963 годзе, калі па існуючай спартыўнай класіфікацыі гэтае званне прысвойвалася з 18 гадоў. Прыйшлося зрабіць выключэнне: 16-гадоваму спартсмену прысвоілі званне майстра спорту пасля таго, як ён 22 разы пацвердзіў свой вынік. А далей — жыццё, як бег па прыступках уверх, не давала перадышкі.

І вось цяпер чатыры выхаванцы Іванова завявалі пяць ліцэнзій на Алімпіяду ў Сіднэй. Гэта заслужаныя майстры спорту, чэмпіёны Беларусі і рэкардсмены Еўропы Сяргей Юрусаў і Алег Хвацовас, заслужаныя майстры спорту, неаднаразовыя чэмпіёны свету, прызёры Алімпійскіх гульняў Канстанцін Лукашык і Ігар Басінскі.

Колькі ж разоў Віктар Пятроў падымаўся на крутую гару, вяршыня якой Алімпіяда! Спачатку сам, цяпер як суправаджальнік сваіх выхаванцаў, за якіх заўсёды ў адказе. Толькі той, хто сам прайшоў шлях ад спартсмена да трэнера, можа сказаць, калі было лягчэй. Існуе нябачная нітка, якая звязвае настаўніка з яго вучнем.

Пройдзены цяжкі шлях, наперадзе адна мэта — Алімпійскія вышыні. А да гэтага ў сакавіку — Кубак свету ў Аўстраліі, на зямлі, дзе пройдзе Алімпіяда. Супернікі ў нашых спартсменаў славутыя — расіяне, італьянцы, немцы, кітайцы.

Асноўная барацьба чакае іх там у цiры. Што адчуваюць яны, калі выходзяць на старт? Уперадзе — мішэнь, ззаду — незлічоныя трэніроўкі. І наступае момант, калі спартсмен вядзе барацьбу сам з сабою. Усё, што ён спасціг, трэба ўкласці ў вынік.

Думаю, што кожны з беларускіх стралкоў настроены на перамогу. Пажадаем суайчыннікам і іх трэнеру ўдачы, яна ім так патрэбна!

**Каця МАЗАКОВА.**




## СПАРТЫЎНАЯ ХРОНІКА

У паўсядзённым жыцці аўстралійцы апранаюцца вельмі няярка, але ў час Алімпіяды 80 тысяч супрацоўнікаў можна будзе лёгка пазнаць у натоўпе, дзякуючы яркай уніформе. На стварэнне адзення для абслугоўваючага персаналу пайшло амаль тры гады намаганняў дызайнера фірмы "Bonds" Вэндзі Паўлучы. Самая яркая дэталь формы — кашуля, па колеру каўняра і правага рукава якой можна будзе вызначыць, якую менавіта працу выконвае яе ўладальнік. У набор адзення таксама ўваходзяць штаны, каўбойскі капялюш і гадзіннік.

* * *

Прэзідэнт МАКа Х.-А. Самаранч заявіў, што пакіне свой пост у 2001 годзе на чарговай сесіі МАКа, якая адбудзецца ў Маскве. Упершыню ён быў абраны на гэтую пасаду ў час маскоўскай Алімпіяды-80. Па яго словах, сваю кар'еру ён хацеў бы завяршыць там жа, дзе пачаў.

* * *

УЕФА абнародаваў спіс суддзяў, якія запрошаны для абслугоўвання матчаў фінальнага турніру чэмпіянату Еўропы 2000 года, які пройдзе ў Бельгіі і Галандыі. У яго ўключаны 12 галоўных арбітраў і 16 іх памочнікаў. У лік асістэнтаў рэферы ўвайшоў і прадстаўнік суддзейскага корпуса Беларусі Юрый Дупанаў.

**К. М.**

# БАГАТЫЯ ЛЮДЗІ

Пераезд з мілай сэрцу старонкі для Парчэўскіх — гора невыказнае і асобная старонка жыцця. І не толькі таму, што трэба было пакідаць назаўсёды сцены, у якіх нарадзіліся і перажаніліся дзеці. Да гэтага часу не згодны Васіль Яфімавіч з падыходамі да перасялення людзей з забруджаных радыяцыяй раёнаў. Нярэдка гэта рабілася па наступнаму прынцыпу — з адной "радыяцыі" вывезлі, а на другую перасялілі. За дваццаць кіламетраў ад радзімай Вётухны вёска Муравілле. Тут у паспешліва пабудаванай сырой "каробцы" патомнаму селяніну прапанавалі ключы ад двухпакаёвай кватэры. Правёў пазіркам Яфімавіч па новых казённых "апартаментах" і працягнуў ключы ад двухпакаёкі назад старшыні сельсавета. Ці зможа ў такой кватэры сабрацца на добрае свята сям'я, у якой больш за дваццаць душ? А як жа хатнюю гаспадарку да ладу давесці?

Калі ўжо дзяржава і выдаткавала грошы на жыллё для перасяленцаў, то трэба было б будаваць дамы на сапраўды чыстых землях. Да таго ж, згодна са стратэгіяй Васіля Яфімавіча, асноўнае будаўніцтва павінна было разгарнуцца ў так званых адміраючых вёсках. Вунь іх колькі на Магілёўшчыне...

І электрычнае святло да іх падведзена, і магазіны з клубамі пабудаваны, а вось жывёлагадоўчыя фермы з года ў год прыходзяць у заняпад. Глядзіш, разам з перасяленцамі і мясцовыя зберглія жыхары пачалі б вяртацца на малую радзіму, зямлі ж не хапае рабочых рук.

Марыў Васіль Яфімавіч перавезці на новае месца жыхарства невялічкую лазню, але не дазволілі некаторыя абставіны: з аднаго боку, не захацеў парушаць законы, ды і сумленне аказалася мацнейшым за запаветную спакусу. Не цягнуць жа ў чыстыя мясціны будаўнічыя матэрыялы, пасыпаныя радыенуклідамі. Падтрымалі бацькоўскае рашэнне і сыны. Праўда, жыць у згодзе з сумленнем, як Васіль Яфімавіч, не ўсім па душы. Таму і развезлі па ўсёй Беларусі рознага роду дзялкі пакінутыя ў радыяцыйнай зоне збудаванні, танна распрадаўшы не толькі шматлікія зрубы, але і сумленне. Укралі ўраз і лазню Васіля Яфімавіча. Да сённяшняга дня горка на душы ад такой гаенебнасці.

— Долары ва ўсім вінаватыя, Еўдакімаўна, — быццам апраўдваўся Яфімавіч перад сваёй жонкай.

Хаця гады і падбіраюцца да скроняў, але і сёння ў Філатаве Васіль і Ірына Парчэўскія, замест страчанага, уласным мазалём змаглі стварыць не менш моцную ўласную гаспадарку. Часткy свайго несхаванага багацця ў выглядзе пенсій яны раздаюць дзецям і ўнукам, а на астатнія грошы купляюць кармы для хатніх жывёл. Нельга не адзначыць, што сям'я Парчэўскіх штогод забяспечвае малочныя прадуктамі не толькі свае шматлікае сямейства, але і амаль па дзве тоны малака выдатнай якасці прадае для дзяржаўных патрэб. Дарэчы, многія філатаўскія сяляне на магазінныя прадукты зараз не спадзяюцца. І прычына тут не толькі ў непамерна ўзрослых цэнах. На сваёй сядзібе, лічаць яны, і каўбаса атрымліваецца значна смачнейшай, і сыр з маслам больш духмяныя.

Што тычыцца эфектыўнасці калгаснай вытворчасці, то ў Васіля Яфімавіча свой устойлівы погляд. "Трэба спачатку рабіць, а затым і рубель прасіць", — лічыць ветэран сельскай працы.

А на развітанне Васіль Яфімавіч падвёў рысу:

— Дарога на Вётухну ўжо быльнягом парасла, а былі б крылы — птушкай паляцеў бы назад, — з мокрымі ад слёз вачамі вымавіў Васіль Яфімавіч. — А што засталося ад папярэдняга жыцця? Бадай што, непадуладныя часу металічныя слупы ад брамаў на раскіданым Чарнобылем паселішчы. Ды яшчэ палаючы кожную вясну амерыканскі клён.

**Эпілог.** А на сустрэчы з прайшоўшай маладосцю Васіль Яфімавіч усё роўна ездзіць. Кожную Радаўніцу на закінутых вясковых могілках бацька з сынам падымаюць па чарцы за спачын родных душ.

**Юрый БЯСТВІЦКІ.**
**Фота Мікалая ЦІТОВА.**

## МІЛАСЭРНАСЦЬ



Брэсцкаму цэнтру пералівання крыві штодзень прыходзіцца звяртацца да паслуг донараў, якіх у картатэцы цэнтра налічваецца 14 тысяч чалавек. Па першаму, як гаворыцца, слову яны гатовы аддаць сваю кроў таму, хто мае патрэбу, каб выратаваць жыццё.

НА ЗДЫМКУ: ліцэйшчык прадпрыемства "Белпласт" Алік ЧУБАРАЎ — адзін з 360 ганаровых донараў Рэспублікі Беларусь.

**Фота Рамана КАБЯКА.**

АСОБА Ў БЯЗМЕЖЖЫ ЧАСУ

ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ


БелТА.

**Хлеб—усяму галава. Дзеля яго яны працавалі, ды і жылі, уласна, таксама. У калгасе "Радзіма" Драгічынскага раёна Пятра ГРЫШЧУКА ведаюць як лепшага жывёлавода, за высокія прыбаўленні жывёлы ў вазе на адкормцы яму ўручылі залатую зорку Героя Сацыялістычнай Працы. А яго жонка Лідзія Васільеўна прапрацавала ўсё жыццё ў паляводстве.**


**Спявак Мікалай СКОРЫКАЎ з членамі гомельскага клуба "Праметэй".**
**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

# КІБЕРНЕТЫК ПРАФЕСАР ГАРАНСКІ

**Наўрад ці хто будзе адмаўляць ролю ў паспяховай дзейнасці як Інстытута тэхнічнай кібернетыкі, так і ўсяго аб'яднання "Кібернетыка" члена-карэспандэнта НАНБ, доктара фізіка-матэматычных навук, прафесара Вячаслава Танаева — буйнога вучонага і арганізатара навукі, які прывёў калектыў да заслужанага прызнання.**

**Аднак не варта забываць, што атрымаў Вячаслаў Сяргеевіч зусім неблагую спадчыну ад першапраходцы кібернетычнай навукі ў Беларусі, першастваральніка і першага дырэктара ІТК, члена-карэспандэнта Беларускай акадэміі, доктара тэхнічных навук, прафесара Георгія ГАРАНСКАГА.**

* * *

...Такое, каб камандуючы фронтам віншаваў вайсковую часць або падраздзяленне з выпадку збітага самалёта, — нешта амаль неверагоднае. Колькі іх, гэтых самалётаў, танкаў, іншай тэхнікі, знішчалі падчас Айчыннай вайны штодзень — не злічыць.

Тым не менш маршал артылерыі Леанід Говараў (пазней Маршал Савецкага Саюза), які камандаваў Паўночна-Заходнім фронтам, у адзін з майскіх дзён 1943 года палічыў за належнае паслаць віншавальную радыяграму на адрас асобнага зенітна-артылерыйскага дывізіёна РГК (Рэзерва Галоўнага камандавання) і канкрэтна аднаму з афіцэраў — Георгію Гаранскаму. Віншаванне было адпраўлена ў той жа дзень, калі збілі фашысцкі "Фоке-Вульф".

Сапраўды, неардынарнае здарэнне. Што ж трэба было зрабіць, каб маршал вылучыў гэты эпізод з соцень іншых? Самалёт-разведчык "Фоке-Вульф-189", так званая рама, карэкціраваў агонь нямецкай артылерыі па нашых войсках, якія неслі сур'ёзныя страты.

Зенітчыкі апынуліся ў тупіку. Усе прыборы кіравання агнём тут былі разлічаны на раўнамерны, прасталінейны рух самалёта на адной вышыні над зямлёй. "Рама" ж парушала ўсе разлікі. Яна ішла, дакладна паўтараючы зігзагі дарогі, мяняла хуткасць і вышыню палёту, словам, выраблала ўсякія фокусы, каб не трапіць пад абстрэл.

Гаранскі дакладна разлічыў момант залпа для кожнай з зенітных батарэй, размешчаных у розных месцах, на розных адлегласцях абапал дарогі, і яны разам выбухнулі над намечаным дарожным зігзагам. Прабіты суцэльным веерам агню, самалёт-шпіён пакідаў за сабой дымны шлейф...

Гаранскі быў удастоены не толькі маршальскага віншавання, не толькі ордэна Айчыннай вайны I ступені, але і не зусім звычайных для характарыстыкі вайскоўца слоў, што і на фронце ён застаўся кваліфікаваным інжынерам і навукоўцам.

Бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што армейская служба здатнага капітана магла б давесці яго да генеральскіх пагонаў. Аднак усё ж выпала яму іншая карта лёсу.

У высокіх штабных кабінетах капітану разам з прапановай далейшай акадэмічнай афіцэрскай шліфоўкі паказалі хадайніцтва — чыё б вы думалі? — беларускага ўрада. Хадайнічалі аб звальненні Гаранскага з арміі і вяртанні яго ў Мінск. Маладога яшчэ чалавека ацанілі на ўрадавым узроўні, што было і для самога Гаранскага нечакана.

На двары стаяў цёплы верасень пераможнага года. Беларусь ляжала ў руінах, да таго ж у родным горадзе засталася адзінокая маці. І, нягледзячы на далёка не благую армейскую перспектыву, Георгій Гаранскі выбраў будучыню, альтэрнатыўную вайсковай: працу ў беларускай сталіцы, дзе зноў пачаў са станкабудаўнічага прадпрыемства, але ўжо на пасадзе галоўнага тэхнолага і зноў прыступіў да чытання лекцый у політэхнічным.

Навука як зачапіла Георгія Канстанцінавіча з маладосці, так і засталася адзінай пастаяннай ягонай прыхільнасцю. Ледзь прайшлі тры пасляваенныя гады, а ён ужо абараніў кандыдацкую дысертацыю і перайшоў на сталую работу ў Беларускі політэхнічны інстытут. Я помню свайго дэкана Георгія Гаранскага, бо давялося пагрызці курс навук, неабходных для інжынера-механіка з ухілам у тэхналогію станкабудавання, праўда, толькі два гады, пакуль канчаткова не вырашыў, што гэта "не маё".

Пасадай прарэктара па навуковай рабоце скончылася дзейнасць Георгія Канстанцінавіча ў БПІ. Гаранскаму двойчы даводзілася станавіцца ля вытокаў практычнага ўвасаблення новых навуковых накірункаў у рэспубліцы. Ён быў арганізатарам і першым дырэктарам Інстытута машыназнаўства і аўтаматызацыі, перайменаванага пазней у Інстытут праблем надзейнасці і даўгавечнасці машын, і Інстытута тэхнічнай кібернетыкі, з якога пачаўся гэты аповед.

Сустрэча з акадэмікам М. Келдышам падахвоціла навуковую цікавасць Георгія Канстанцінавіча да аўтаматызацыі разумовай працы — накірунку, асноватворныя праблемы якога сталі прадметам доктарскай дысертацыі. Як аўтарытэтны спецыяліст у гэтай галіне, Гаранскі рабіў даклады на міжнародных навуковых канферэнцыях, ягоныя артыкулы публікаваліся ў прэстыжных замежных навуковых выданнях...

Адданы сваёй неспатольнай празе да новых ведаў, Георгій Канстанцінавіч ледзь не да апошняга свайго дня працягваў займацца піянернымі даследаваннямі — аўтаматызацыяй разумовай працы, шчыраваў над неабдымнай тэмай "Інтэлектуальныя інтэграваныя кібернетычныя сістэмы аўтаматызацыі тэхналагічнага праектавання ў машынабудаванні".

Мяне, журналіста, чалавека скептычнага, вядома ж, цікавіла, наколькі ўпісваецца ў паняцце "ноу-хау" праца Георгія Гаранскага. І атрымлівалася, што цалкам.

Па-першае, прадметам ягоных даследаванняў з'яўляліся камп'ютэры, што выраслі ўжо з пялёнак фармальных аперацый. Камп'ютэры новага пакалення, над якімі біўся прафесар Гаранскі, іншыя: тыя, што на аснове штучнага інтэлекту эксплуатуюць суму назапашаных імі ведаў для самастойнага рашэння складаных лагічных задач, якія дагэтуль былі падуладныя адно чалавеку, ды і то не заўсёды.

Па-другое, для сучаснага машыннага інтэлекту патрабуецца складанае матэматычнае забеспячэнне, маючае ў аснове алгебру логікі, навуку галаваломную, часцяком непасільную не толькі для калектываў — для краін: замінае слабая матэрыяльна-тэхнічная база і невысокі ўзровень кваліфікацыі навукоўцаў. Таму Гаранскі ставіў перад сабой задачу распрацаваць методыку дзеяння ЭВМ на больш простай матэматычнай аснове.

Праца пасоўвалася не без цяжкасцей. Справа не толькі ў складанасці пастаўленай задачы. Не садзейнічаў працы і хваравіты стан вучонага — давалася ў знакі старое франтавое раненне.

У памяці маёй засталося, як мы сядзім за рабочым сталом Георгія Канстанцінавіча, і мне думаецца: не, не памыліўся той 30-гадовы прыгожы капітан, чыя выява, намаляваная франтавым таварышам, вісіць на сцяне. Н… памыліўся, калі выбраў лёс, я… гэтак слаўна ўдаўся аж да леташняга 87-годдзя. Вядома, мая ацэнка чыста эмацыянальная. Але ёй надае грунтоўнасць меркаванне прафесіяналаў, дактароў навук А. Дабралюбава, А. Раковіча, кандыдата навук А. Грывачэўскага, узбекскага акадэміка Тулкуна Нусратава, навукоўцаў з Літвы, Германіі, Венгрыі, усіх, хто мае гонар звацца вучнямі Георгія Канстанцінавіча Гаранскага.

**Раальд ЛЕВІН.**

# ВЭП, ЯКУЮ ПРЫДУМАЎ Леанід ДАЙНЕКА

ДВУХТЫСЯЧНЫ год, мяжа тысячагоддзяў. Гэта час падводзіць вынікі, успомніць мінулае, задумацца пра будучыню. Для Беларусі сённяшні дзень складаны і цяжкі. Былыя спадзяванні не спраўдзіліся, а будучыня цьмяная і неакрэсленая. Неспрыяльнае эканамічнае становішча, цяжкія ўмовы жыцця, беднасць пазбаўляюць людзей надзеі, пасяляюць у душы расчараванасць і абыякавасць. Спрадвечныя каштоўнасці: дабрыня, любоў, шчырасць, сумленнасць, прынцыповасць — паступова пачынаюць саступаць месца іншым жыццёвым арыенцірам. Грошы, сытае, бестурботнае жыццё — вось ідэал некаторых нашых сучаснікаў. Дасягнуць гэтай мэты яны гатовы любымі сродкамі, адкідваючы сумленне, як непатрэбную рэч. І вельмі важна, што ёсць людзі, якія бачаць: гэты шлях вядзе ў тупік, адкуль няма выйсця. Леанід Дайнека — з такіх.

Ужо ў першых творах Леаніда Дайнекі праявілася глыбіня пачуццяў. Як паэзія, так і проза з самага пачатку вызначаліся імкненнем да ідэалаў, пакінутых нам у спадчыну. Любоў да роднага краю, цікавасць да яго гісторыі, занепакоенасць лёсам Бацькаўшчыны праходзяць праз усю творчасць Леаніда Дайнекі. Пісьменнік бачыць магчымасць дасягнення гармоніі ў жыцці асобных людзей і ўсяго народа толькі пры наяўнасці непарыўнай сувязі паміж пакаленнямі, пры перадачы ад дзядоў да ўнукаў не толькі матэрыяльных здабыткаў, але ў першую чаргу духоўнага вопыту, маральных каштоўнасцей. Нездарма ён звяртаецца да гісторыі Беларусі. На старонках гістарычных раманаў "Меч князя Вячкі", "След ваўкалака", "Жалезныя жалуды" ажылі людзі, якія залажылі фундамент беларускай дзяржавы, стаялі ля вытокаў фарміравання самабытнай беларускай нацыі. Людзі павінны ведаць, хто яны і адкуль прыйшлі, каб перадаць гэтыя веды сваім нашчадкам. Гістарычныя раманы Л. Дайнекі атрымалі належную ацэнку. Яны трывала ўвайшлі ў школьныя праграмы. Іх добра ведаюць як на Беларусі, так і за яе межамі.

ПІСЬМЕННІК знайшоў сваё месца ў беларускай літаратуры, але, як і кожны па-сапраўднаму таленавіты творца, не спыніў пошук. З-пад пяра пісьменніка выйшаў фантастычны раман "Чалавек з брыльянтавым сэрцам".

Леанід Дайнека перайшоў ад узнаўлення мінуўшчыны да канструявання мадэлі нашай будучыні. Дзеянне рамана пераносіць нас на трыста гадоў уперад. На Зямлі пануе Вялікая Эра Плюралізму (ВЭП). Зніклі войны, пераможаны эпідэміі, голад, галеча. Чалавецтва аб'ядналася ў адзінае дэмакратычнае грамадства. Ажыццёўленая утопія? Знойдзены рай? Зусім не. За прыгожым фасадам хаваюцца глыбокія супярэчнасці, нявырашаныя праблемы, на якія большасць людзей проста не звяртае ўвагі, бо гэта пазбаўляе спакою, парушае камфортнасць іх бестурботнага жыцця. Вырашаць праблему складана, прасцей рабіць выгляд, што яе ўвогуле не існуе. Зручней жартаваць аб збіранні пластыкавых грыбоў у пластыкавым бары, чым адкрыта прызнаць, што прырода скалечана, збеднена ў выніку гаспадарчай дзейнасці чалавека і што за гэта трэба несці адказнасць усяму чалавецтву. Лягчэй адмаўляць існаванне Старой Цывілізацыі, чым усвядоміць, што на Зямлі паралельна з чалавекам існуюць іншыя разумныя істоты, бо калі прызнаць існаванне іншай цывілізацыі, то давядзецца прызнаць і яе правы. А на гэта людзі ВЭП не пойдуць, бо давядзецца абмяжоўваць сябе, лічыцца з існаваннем суседзяў па планеце, галактыцы, сусвеце. Дэкларуючы роўнасць правоў, чалавецтва ВЭП адмаўляе ў гэтых правах усім, акрамя сябе. Але і самі людзі несвабодныя. Грамадства пільна ахоўвае свае інтарэсы, а нормы і правілы Штодзённага Этыкету кантралююць жыццё кожнага чалавека цалкам, ствараючы вакол яго неадольную сцяну з абмежаванняў і забарон, пазбаўляючы жыццё натуральнасці, нязмушанасці. Калі ж чалавек выбіваецца за рамкі сістэмы, яго абвяшчаюць хворым, абмяжоўваюць яго свабоду, фактычна, пазбаўляюць усіх правоў. У такіх умовах назва "Вялікая Эра Плюралізму" гучыць з'едлівай і горкай насмешкай.

ЯК ЖА ўзнікла гэта грамадства? Перш за ўсё, дзякуючы абыякавасці большасці людзей. Каб забяспечыць уласны дабрабыт і спакой, людзі згаджаюцца на такі маскарадны плюралізм. Гэта грамадства абывацеляў, для якіх на першым месцы асабісты камфорт. Пры знешняй прыстойнасці гэта, па сутнасці, людзі без маральных прынцыпаў, засяроджаныя толькі на сабе. Адна з прычын іх узнікнення — страта сувязі паміж пакаленнямі, адмаўленне ад духоўнага скарбу свайго народа на карысць голага практыцызму. А гэта ўжо той працэс, які сёння ідзе ў нашым грамадстве. Грошы не могуць быць нашай мэтай, ідэалам для чалавека. Сапраўднае толькі духоўнае багацце, якое мы атрымліваем у спадчыну, папаўняем уласным духоўным вопытам і перадаём дзецям. І трэба звярнуцца да яго, дакрануцца да памяці народа, як робіць гэта герой рамана Клён Дубровіч: "Ён дакрануўся да памяці, зазірнуў у крыніцу, знайшоў выток... Ён перайначыўся, адчуў сілу сваёй зямлі і аб гэтай вечнай сіле расказа ўсім". Калі існуе сувязь паміж пакаленнямі, жыццё не мае канца, памяць людзей, памяць прыроды захоўвае яго ад знікнення. Чалавек павінен жыць у гармоніі з прыродай, з гісторыяй, з сусветам, бо толькі гэта робіць яго жыццё апраўданым і асэнсаваным.

**Галіна ВАРОНАВА,**
**аспірантка кафедры беларусазнаўства БДУ.**

ЮБІЛЕІ



**16 лютага споўнілася 75 гадоў народнаму пісьменніку Беларусі, літаратуразнаўцу, акадэміку Нацыянальнай акадэміі навук Івану НАВУМЕНКУ. Нарадзіўся Іван Якаўлевіч у горадзе Васілевічы Рэчыцкага раёна, ён удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў у рэдакцыях газет, з 1954 года на кафедры беларускай літаратуры Белдзяржуніверсітэта, з 1973 года — дырэктар Інстытута літаратуры, а з 1982 — віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР. Друкуецца з 1955 года. Спачатку пісаў апавяданні, аповесці, затым, як бы падводзячы вынікі былога мастацкага вопыту па стварэнню шырокай карціны жыцця і барацьбы савецкіх людзей ва ўмовах фашысцкага прыгнёту, — раманы "Сасна пры дарозе", "Вецер у соснах", "Сорак трэці". Пісьменніка і сёння захапляюць праблемы сучаснага жыцця, вера чалавека ў лепшую будучыню, яго надзеі і памкненні.**

**БелТА.**



ХРЫСЦІЯНСКАЯ СТАРОНКА «ЖЫЦЦЁ І ВЕРА»





**У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адкрылася выстава "Іканапіс і разьба Беларусі XV—XVIII стагоддзяў". Экспазіцыя прысвечана 2000-годдзю хрысціянства і асвятляе самабытнасць культуры Беларусі, выяўленай у іканапісе, дзе беражліва захоўваліся візантыйска-рускія каноны і адначасова аказваўся ўплыў заходнееўрапейскай стылістыкі — Рэнесансу, барока, класіцызму.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час адкрыцця выставы; ікона "Хрыстос Усетрымальнік". XVI стагоддзе.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# СПАЧУВАЕ «КАРЫТАС»

**"Caritas" па латыні азначае міласэрнасць, любоў. Такую назву носіць і дабрачынная арганізацыя, якая традыцыйна працуе ў лоне каталіцкай царквы і існуе ў ста пяцідзесяці краінах. Яе мэта — вярнуць нас да забытых зносін паміж людзьмі: сваяцкай любові адзін да аднаго, міласэрнасці. "Карытас" заўсёды спяшаецца прыйсці на дапамогу бедным і інвалідам, хворым і паміраючым, шматдзетным сем'ям — усім людзям, якія церпяць нягоды і гора, якія трапілі ў цяжкія жыццёвыя сітуацыі.**

Я пераканалася ў гэтым, пераступіўшы парог Мінскага абласнога радзільнага дома. Ён не зусім звычайны: сюды прывозяць парадзіх з Мінскага раёна і вобласці з цяжкімі паталогіямі.

Можа, наш час таму віной, але колькасць ускладненых, з паталогіямі родаў, пры якіх на свет з'яўляюцца неданошаныя, нездаровыя дзеці, за апошнія дзесяць год павялічылася на 150 працэнтаў. Аналізу гэтага становішча ўрачы пакуль не рабілі. Але, на іх думку, гэта вынік зніжэння імунітэту ў жанчын, выкліканы чарнобыльскай катастрофай. Ды і фінансавае становішча большасці сёння такое, што на паездку ў Мінск ці хаця б у бліжэйшы раённы цэнтр для неабходнай кансультацыі ў будучай маці няма сродкаў.

Вось і атрымліваецца, што з дзвюх с паловай тысяч народжаных у нас штогод немаўлят кожны дзевяты неданошаны. Гэта дзеці з малой вагой, а таму — аслабленыя. Яны пакутуюць ад прыроджаных інфекцыйных захворванняў, пнеўманіі, сепсісу, менінгаэнцэфаліту... З 1993 года, як вядома, па рашэнню Сусветнай арганізацыі аховы здароўя ў нас рэгіструюцца дзеці вагой ад 500 грамаў.

84 працэнты такіх немаўлят, вагой ад 500 грамаў да паўтара кілаграмаў, у гэтым раддоме ўсё ж выходжваюць. А пра смерць нармальных дзяцей тут і зусім не гавораць. Яе, дзякуй Богу, вось ужо тры-чатыры гады няма. І не без дапамогі таварыства "Карытас", таму што менавіта яно забяспечыла аддзяленні раддома спецыяльнымі кювезамі і іншым абсталяваннем для нованароджаных, вострадэфіцытнымі медыкаментамі, аднаразовымі перыферычнымі катэтарамі, сістэмамі для пералівання крыві, іголкамі, шпрыцамі.

Тое, што я ўбачыла тут, прыемна ўразіла. У залітых сонцам, стэрыльна чыстых боксах ляжалі на ўтульных спецыяльных ложках шчаслівыя маці, а побач з імі ў калысках — іх немаўляты. Гэтыя ложкі з пуховымі пярынамі, падушкамі, у поўным камплекце з бялізнай паступілі па лініі гуманітарнай дапамогі "Карытаса". А яшчэ адзенне для персаналу, парадзіх, дзяцей. Вялікі запас адапціраваных малочных сумесяў дазваляе падкормліваць немаўлят.

Вы можаце не паверыць, але нідзе ў раддоме я не адчула паху хлоркі, лізолу, уласцівых шматлікім лячэбным установам. Справа ў тым, што пра дэзінфіцыруючыя сродкі і лячэбна-касметычныя прэпараты, эмульсіі, прысыпкі, мыла фірмы "Нівея" паклапаціўся ўсё той жа "Карытас". І парадзіхі, і ўрачы — усе хорам шчыра дзякавалі таварыству міласэрнасці, а таксама яго дырэктару — настаяцелю касцёла Святой Тройцы (Святога Роха) на Залатой горцы ў Мінску ксяндзу Міхаілу Сапелю.

Хутка мы сустрэліся. Міхаіл аказаўся чалавекам сярэдняга ўзросту, вельмі энергічным, абаяльным. У нядаўнім мінулым — выпускнік медыцынскага вучылішча ў Даўгаўпілсе, потым скончыў Рыжскую семінарыю.

— Таварыства "Карытас" у Мінску, — расказвае ён, — існуе ўжо шэсць гадоў. Праўда, спачатку былі, так сказаць, на нелегальным становішчы. Чыноўнікі доўга адмаўлялі ў афіцыйнай рэгістрацыі на той падставе, што, па старых савецкіх законах, у нас усякая рэлігійная дабрачыннасць забаронена, ды і хапае ўжо, маўляў, у Беларусі шматлікіх таварыстваў Чырвонага Крыжа, сляпых, глухіх, фондаў міласэрнасці. Але ці можна канкурыраваць з кімсьці ў справе дабрачыннасці? І ці не лепш аб'яднаць намаганні, грашовыя сродкі, энтузіязм розных служб, у тым ліку і дзяржаўных, таварыстваў, грамадзян? Пэўны вопыт супрацоўніцтва з дзяржаўнымі арганізацыямі ў нас ўжо ёсць. У Мінску адкрыты дзве сталовыя для бедных — плён сумесных намаганняў з Фрунзенскім і Першамайскім райвыканкамамі, якія прадаставілі памяшканні. Кошт абедаў — а штомесячна гэта каля 2 000 долараў — аплачвае таварыства "Карытас", што ў аўстрыйскім горадзе Лінцы. У гэту ж касу паступаюць ахвяраванні прыхаджан Рымска-Каталіцкай парафіі касцёла Святой Тройцы. Пэўную частку сродкаў дае аддзел у магазіне для маламаёмых, дзе прадаюць па чыста сімвалічнай цане адзенне, абутак, што паступаюць па лініі гуманітарнай дапамогі.

За шэсць гадоў існавання "Карытасам" зроблена нямала. Бо царква заўсёды падавала жабраку, убогаму, лячыла душы тых, хто зусім апусціўся, спіўся і згубіў веру ў сябе, утрымлівала прытулкі, багадзельні, сядзелак.

— За гэты час, — працягваў Міхаіл Сапель, — мы не толькі забяспечылі абласны раддом медыкаментамі і абсталяваннем, але і зрабілі рамонт у яго аддзяленнях, пабудавалі пральню. Адрамантавалі таксама інтэрнат для дзяцей, якія пакутуюць на анкалагічныя захворванні, дзе яны пражываюць разам з бацькамі ў дні кансультацый у абласной бальніцы ў Бараўлянах, дзіцячае аддзяленне і аддзяленне рака малочнай залозы гэтай жа клінікі. У Аксакаўшчыне мы купілі дом, дзе абсталявалі пансіянат для дзяцей, якія прыехалі на кансультацыі да анколагаў. Здзейснены і іншыя сумесныя праекты з таварыствамі "Карытас" у Лінцы, Швейцарыі, Францыі.

Дырэктар таварыства ксёндз Міхаіл займаецца дабрачыннасцю бясплатна. Астатнія супрацоўнікі, большасць з якіх, дарэчы, прыйшлі сюды з камерцыйных структур і, канешне ж, страцілі ў грашах, атрымліваюць невялікую зарплату. Але яны — людзі веруючыя і, разумеючы, што не ўсё ў гэтым жыцці вымяраецца грашыма, прыйшлі сюды з адной мэтай: дапамагаць абяздоленым, гаротным, зняважаным цяперашнім жыццём людзям.

**Таццяна ХРАПІНА.**

КОРАТКА

**ПАЧАТА ПАДРЫХТОЎКА СПЕЦЫЯЛІСТАЎ-РЭЛІГІЯЗНАЎЦАЎ ДЛЯ ШКОЛ І ВНУ. На гістарычных факультэтах у Беларускім дзяржаўным універсітэце і педагагічным універсітэце імя М. Танка ўпершыню ў рэспубліцы пачата падрыхтоўка спецыялістаў-рэлігіязнаўцаў.**

**Як паведаміў вядучы інспектар Міністэрства адукацыі Анатоль Кучынскі, новаўвядзенне звязана з узмацненнем увагі ў навучальна-выхаваўчым працэсе да пытанняў культуры і маралі. "Атэізм як прадмет школьнай і вышэйшай адукацыі даваў аднабаковае трактаванне асноўных сусветных рэлігій", — падкрэсліў ён.**

**Адной з падстаў для адкрыцця новых спецыяльнасцей з'явілася таксама актывізацыя ў Беларусі шэрагу дэструктыўных сект — "Аб'яднанне Муна", "Сям'я любві", саенталогіі і іншых, якія часта праводзяць сваю працу менавіта ў асяроддзі школьнай і студэнцкай моладзі. Супрацьдзеянне ім павінна быць прафесійным, лічаць у Міністэрстве адукацыі.**

# АСВЕТНІКІ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ І ІХ СВЯТЫНІ

● **Алена ЯСКЕВІЧ,** *кандыдат філалагічных навук.*

**У канфесійных катаклізмах беларуская духоўная традыцыя сталася падзеленай. Менавіта зварот да марыялогіі дазволіў наблізіцца да таго, што спрадвеку яднала, цэментавала нашу нацыю. На працягу ўсёй гісторыі існавання беларускага народа для духоўнай падтрымкі ў цяжкія часы былі яўлены цудадзейныя іконы Божай Маці.**

Багародзічныя святыні адыгралі асаблівую ролю як носьбіты духоўнага генетычнага кода айчыннага этнасу ў часы І і ІІ беларускіх уплываў на культуры суседніх народаў.

Нельга не агаварыць у сувязі з гэтым тып усходнехрысціянскага адраджэнца. Гэта своеасаблівы тып культурнага і грамадскага дзеяча — звычайна нашчадак шаноўнага гарадскога, магнацкага ці шляхецкага сямейства, які рана прыняў пострыг у манахі і прайшоў суровую вывучку ў вопытных "старцаў", які вандраваў і цярпеў нягоды. Ён сфарміраваны сузіральнік-практык, але адначасова тэарэтык, "філосаф". Ён піша багаслоўска-палемічныя трактаты, прымае ўдзел у дыспутах пра "боскую энергію". На жыццёвыя ліхалецці (голад, эпідэміі, землятрусы, нашэсці туркаў і лацінян) адгукаецца сачыненнем гімнаў і малітваў, зборам ахвяраванняў і словам суцяшэння дапамагае ў бядзе. Можа пісаць іконы, перакладаць з грэчаскай мовы на славянскую. Гэтыя людзі становяцца на чале манаскіх брацтваў, царкоўных абшчын гарадоў, "усяленскай" канстанцінопальскай патрыярхіі. Розныя па паходжанні, яны рассяляюцца з Балкан па ўсёй Усходняй Еўропе, утварыўшы "наднацыянальную" сукупнасць. Уласцівае ім у "келейны" перыяд падзвіжніцтва — пошукі кваліфікаванага настаўніка, жаданне навучыць "сардэчнай малітве" іншых, імкненне пазбегнуць свецкай славы — яны захоўвалі і на грамадска-палітычным узроўні дзейнасці. Часта праз нацыянальныя межы яны працягваюць падтрымліваць цесныя асабістыя сувязі — як сябры, як вучні аднаго настаўніка. Кантакты ж паміж сабою дазваляюць ім заставацца ў жывой сувязі з жыццём Афона, кафалічнай канстанцінопальскай патрыярхіяй.

Тып такога ўсходнехрысціянскага адраджэнца стаў духоўным стрыжнем, глыбінным кодам нацыі, ключавым элементам яе архетыпу. Яшчэ славуты гісторык В. Ключэўскі пра гэта зазначыў: "Ёсць імёны, якія насілі гістарычныя людзі, што жылі ў вядомы час, праўлялі гістарычна вядомую жыццёвую справу, але імёны, якія ўжо страцілі храналагічнае значэнне, выступілі па-за межы часу, калі жылі іхнія носьбіты. Гэта таму, што справа, здзейсненая такім чалавекам, па сваім значэнні гэтак далёка выходзіла за абсягі свайго веку, сваім дабратворным дзеяннем гэтак глыбока захапіла жыццё далейшых пакаленняў, што з асобы гэтага дзейсніка ў свядомасці пакаленняў паступова спадала ўсё часовае і мясцовае, і яна з гістарычнага дзеяча ператваралася ў народную ідэю, а сама справа яго з гістарычнага факта зрабілася практычнай запаведдзю, запаветам, тым, што мы прызвычаіліся называць ідэалам".

(Працяг будзе).

ФОТАФАКТ

**У ВІЦЕБСКІХ КАТОЛІКАЎ — СВОЙ БІСКУП.** Сваім дэкрэтам папа рымскі аб'явіў аб стварэнні ў Беларусі новай дзіяцэзіі (біскупства) — Віцебскай. Біскупам назначаны святар нік магілёўскага касцёла Святога Станіслава Уладзіслаў Блін. Аб'яўлена, што віцебскі касцёл Святой Варвары становіцца цяпер кафедральным.





БелТА.

НА ЗДЫМКАХ: біскуп Віцебскай вобласці Уладзіслаў БЛІН; кафедральны касцёл Святой Варвары ў Віцебску.

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# Софія ПРОРВІЧ: ЦІ ЁСЦЬ СЛЯДЫ Ў ЗАМЕЖЖЫ?

Я шукаю ў замежжы сляды (успаміны і дакументальныя сведчанні) аб жыцці і дзейнасці забытай пісьменніцы з Палесся Софіі Прорвіч (каля 1937 года).

...Аўтар гэтых радкоў, настаўнік гісторыі, адкрыўшы імя С. Прорвіч, узяўся даследаваць творчы шлях пісьменніцы, а вынікам сталі даклады на 5-х і 6-х Свята-Ефрасіннеўскіх педагагічных чытаннях (XI. 1998; XI. 1999, Мінск), на міжнароднай гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі "Палессе на скрыжаванні культур і часу" (IX. 1999, Пінск). У Цэнтр праваслаўнай асветы перададзены рукапіс твораў С. Прорвіч (зборнік абяцалі выдаць у 2000 годзе), а ў Літаратурным музеі С. Прорвіч — ужо як пісьменніца — унесена ў картатэку. Зборам звестак пра С. Прорвіч актыўна заняліся і супрацоўнікі Лунінецкага раённага краязнаўчага музея, дзе накоплены найбольш поўны матэрыял пра яе.

Радавацца б адкрыццю, але біяграфічных звестак аб С. Прорвіч усё ж малавата. Таму я шукаю ў замежжы сляды памёршай больш за 60 гадоў назад пісьменніцы і яе родзічаў. Ведаю, што яны могуць пражываць у ЗША, Літве, Польшчы... Але — пра ўсё па парадку.

**Канада.** Я ўдзячны жыхарцы канадскага Ванкувера Ірыне Андрэеўнай Разваляевай, якая даслала надзвычай цікавую і найкаштоўнейшую для даследчыка інфармацыю — ксеракопіі дакументаў, успаміны аб апошніх гадах жыцця С. Прорвіч.

**ЗША.** С. Прорвіч перапісвалася з Мітрапалітам Паўночнай Амерыкі і Канады епіскапам Лявонціем (Туркевічам). Адна з даследчыцкіх версій у тым, што С. Прорвіч была ў духоўным сваяцтве з Туркевічамі. Таму ў ЗША могуць быць людзі, якім многае вядома з жыцця С. Прорвіч.

**Літва.** У Вільні ў 70-х гадах пражывала ўнучка С. Прорвіч — Ніна Цімафееўна Козак з мужам Уладзімірам і сынам Юрыем. Гэтая сям'я найбольш інфармаваная аб С. Прорвіч. Н. Козак — дачка свяшчэнніка Цімафея Дзюкава і дачкі С. Прорвіч — Веры Мікалаеўны.

**Польшча.** У гэтай краіне жылі Родзічы лунінецкіх Прорвічаў — таксама Прорвічы, якія папалі ў Польшчу наступным чынам. Адзін са сваякоў мужа пісьменніцы неўзабаве пасля кастрычніка 1917 года пакінуў Беларусь, нелегальна дабраўся да Кракава з мэтаю атрымаць спецыяльнасць урача ды так і застаўся жыць у Польшчы. Хутка Лунінец апынуўся ў межах польскай дзяржавы, так што родзіч з Польшчы мог бесперашкодна мець кантакты з сям'ёй Софіі Прорвіч.

**Украіна.** У Пачаеўскім манастыры (ці непадалёк ад яго) пахавана С. Прорвіч (смерць наступіла ў час паломніцтва). Можа адгукнецца той, хто сустракаў яе магілу? Дарэчы, калі ў надмагільным надпісе будуць указаны даты нараджэння і смерці, то гэтыя звесткі будуць надзвычай каштоўнымі, бо метрычныя запісы аб нараджэнні і смерці не захаваліся.

**Расія.** У адным з часопісаў неяк прамільгнуў фотаздымак свяшчэнніка Чысцякова, які рыхтуе перадачы для маскоўскага радыё. Знешняе падабенства масквіча да С. Прорвіч уразіла. Магчыма, не выпадкова: С. Прорвіч была з роду Чысцяковых. Брат С. Прорвіч, Аляксандр Чысцякоў, пасля заканчэння духоўнай акадэміі працаваў выкладчыкам духоўнага вучылішча, атрымаў тры ордэны і асабістае дваранства.

Ёсць здагадкі, што муж і сын С. Прорвіч у час грамадзянскай вайны мелі нейкае дачыненне да антыбальшавіцкай падпольнай арганізацыі. Але ці існавала на самай справе такая арганізацыя ў Лунінцы? Гэта адна з "белых плям" у гісторыі Лунінеччыны і ў біяграфіі сям'і Прорвічаў.

Хочацца верыць, што сярод чытачоў "ГР" або сярод іх сваякоў ці знаёмых знойдуцца людзі, якія падзеляцца ўспамінамі сваіх бацькоў аб сям'і С. Прорвіч, аб эпізодах з гісторыі Лунінца 1917—1939 гадоў.

Ёсць жа ў Празе, Лондане, Парыжы ці Беластоку людзі, якія любяць гартаць у бібліятэках старонкі старых выданняў 1916—1937 гадоў, дзе могуць быць надрукаваны хоць якія-небудзь матэрыялы аб праваслаўнай пісьменніцы Софіі Прорвіч. Застаецца адкрытым пытанне, ці пісала яна на іншых мовах, акрамя рускай, і ці друкавалася яшчэ дзе, акрамя Варшавы.

На старонках "ГР" падаю свой адрас:

**Васіль Тумілавіч,**
**вул. 17 Верасня, 29.**
**225650. Лунінец,**
**Брэсцкая вобласць,**
**Беларусь.**

ГАСЦЁЎНЯ

***Імя рэжысёра Сяргея Кавальчыка, які ўсяго толькі тры гады таму скончыў інстытут, ужо добра вядомае ў тэатральных колах Беларусі. Таленавіты і энергічны, ён за гэты кароткі тэрмін паспеў зняць дзве дакументальныя стужкі і паставіць восем спектакляў. У асноўным гэта дзіцячыя казкі — "Воўк - мараплавец", "Гадкае качаня", "Пунсовая кветачка" і іншыя. Многія з іх па некалькі гадоў не сыходзяць са сцэн тэатраў. Так, нядаўна адбыўся 150-ты спектакль "Дзень нараджэння ката Леапольда", а, напрыклад, казка "Папялушка", па словах дырэктара Гомельскага тэатра, вось ужо тры гады з'яўляецца любімым спектаклем гамяльчан.***

***Сяргей Кавальчык запатрабаваны самымі рознымі тэатрамі: ён працаваў у Маладзёжным, Тэатры юнага гледача, Гомельскім абласным тэатры, зараз рыхтуе прэм'еру для Тэатра беларускай драматургіі. Як кажа сам рэжысёр, ён ніколі не адпачывае — са спектакля "ідзе" ў спектакль. Застаецца дадаць, што на фестывалі творчай моладзі 1999 года Сяргей Кавальчык быў прызнаны лепшым маладым рэжысёрам Беларусі.***

**— Ты нарадзіўся ў тэатральнай сям'і. Гэта паўплывала на твой выбар прафесіі?**

— Не толькі паўплывала, але і адразу яго прадвызначыла. Я заўсёды жартую, што стаў артыстам яшчэ да нараджэння: мама іграла на сцэне да апошняга месяца цяжарнасці. Канешне, вялікі ўплыў прыкладу бацькі — рэжысёра Міхаіла Кавальчыка, чалавека незвычайнай тэатральнай культуры.

Увогуле мне пашчасціла займацца ў цудоўных педагогаў. На акцёрскім факультэце, куды я паступіў у 1986 годзе, вучыўся ў Зінаіды Браварскай і Андрэя Андросіка — вядомых "купалаўцаў". Пасля мяне запрасілі на трэці курс рэжысуры, дзе маімі настаўнікамі былі Лідзія Манакова і Мікалай Пінігін.

**— Зараз ты вельмі актыўна займаешся рэжысурай і, здаецца, зусім не іграеш!**

— Трэба займацца нечым адным, бо рэжысёр і акцёр — гэта дыяметральна супрацьлеглыя прафесіі. Рэжысёр не зможа цалкам аддацца ролі, бо ўсё роўна будзе крытычна ацэньваць ігру іншых. Тым больш нельга іграць у сваіх спектаклях: можна страціць аб'ектыўнасць, што недапушчальна для рэжысёра.

Усё, што я хачу сыграць, стараюся перадаць праз галоўнага героя ў спектаклі. Мне гэтага дастаткова.

**— Твае спектаклі пастаўлены ў асноўным па п'есах класічных**

З НІЗКІ АПАВЯДАННЯЎ "НЕПАМЯРКОЎНЫЯ"

# ЗЯЛЁНЫЯ ВОЧЫ

Хрыпаты заўважыў яе адразу. Пышныя чорныя *валасы нават пасля* васьмідзённай язды-пакуты ў вагоне-цялятніку былі дагледжаныя. Акуратна ўкладзеныя, яны быццам гаварылі: не было ні этапа, ні "вагона-цялятніка", ні апошніх трох дзён без ежы... Стомленымі былі толькі яе вялізныя зялёныя вочы... Але і стомленыя, яны зачароўвалі, гіпнатызавалі, ненавідзелі... Прыкмеціўшы іх позірк на сабе, ён адчуў, як па целе прабег халадок. "Пaглядзела, быццам змяюка перад кідком... Пагарджае, — прачытаў Хрыпаты ў яе вачах, і ў яго перахапіла дыханне: пагарда і нянавісць яго толькі ўзбуджалі. — Ад пагарды далейшы шлях да асалоды, але саладзейшая сама ўцеха", — сказаў ён сабе... Яшчэ яго ўзбуджала кроў, але гэта — потым...

Усю ноч начальнік Мінусінскага лагпункта трыццацівасьмігадовы Ізмаіл Віктаравіч Храпін, ці, як яго не толькі за голас зняволеныя звалі між сабою — Хрыпаты, не мог заснуць. Толькі раніцай, знясілены працяглым "змаганнем" з алкаголем, арганізм здаўся...

Спачатку зялёнавокая была далёка, але, пачуўшы ягонае "падыдзі", раптам, нечакана, паслухалася і пайшла да яго... Вось яна прыбліжаецца... Яна ўжо блізка... Вельмі блізка... Ён глядзіць на яе доўгія пышныя валасы, палаючыя вочы, выразныя вішнёвыя вусны... Яны ў яго пакоі... Яны ўдваіх... Ён прытульваецца да яе, гаворыць: "Не бойся, распранайся, усё добра, усё будзе добра, усё будзе..." Зялёныя вочы не адказваюць, працягваючы глядзець на яго, і ў позірку ён зноў адчувае тое ж, што і тады, першы раз... Ён узбуджаецца, паўтарае яшчэ, але ўжо па-іншаму: "Распраніся, сце-е-р-ва, — расцягвае словы, — або я павыпальваю твае пругкія грудкі... Распраніся і на калені. Паглядзім, як ты зможаш за сваё жыццё пастаяць..."

Чарнавалосая адвяла вочы, у якіх ён паспеў прачытаць спакой, адступіла назад і пачала расшпільваць гузікі...

"Спрытна, — падумаў ён, — вопыт. Вопыт, як і талент, не прап'еш. Толькі талент — ён ёсць ці не, а за вопыт трэба пазмагацца, папацець..." За гэтыя тры гады яму шмат давялося папацець, перш чым навучыўся браць адразу. "Вось і гэта грудастая зараз запрацуе..." І, прадчуваючы асалоду, якую дасць яму зялёнавокая, ён пачаў ацэньваць, што мае на гэты раз...

Яна зняла кофтачку і, адчуўшы, як яго позірк мацае праз ліфчык яе грудзі, павярнулася да яго спіной і сказала: "Расшпілі..." Павольна, п'янеючы ад задавальнення, ён наблізіўся да зялёнавокай... Зараз ён ёй "расшпіліць"... Зараз павесяліцца... Хрыпаты сціснуў правую руку ў кулак: ён любіў з крывёю...

Калі да дзяўчыны заставаўся адзін крок, яна нечакана павярнулася і кінула ў яго кофту... Кофта аказалася ў нейкай ліпкай слізі. Ледзь ададраўшы яе ад твару, ён раптам убачыў перад сабой вялізную, у ягоны рост, змяю. Разяўленая пашча гадзюкі адпалілася ад яго. "Набірае адлегласць, — зразумеў ён. — Разганяецца. Прыпынілася... Пайшла... А-а-а-а..." Змяя кінулася на яго, учапілася ў вусны і, адарваўшы ніжнюю губу, адскочыла назад. Заліваючыся ягонай крывёй, яна прашыпела: "Яшчэ пацалунак?.."

Прачнуўся Хрыпаты ад свайго ж крыку... Першым адразу, як і заўсёды, ён убачыў Фелікса. "Ізмаіл Віктаравіч, — спытаўся "слуга" спакойна, быццам і не чуў крыку, — гарбату несці?"

— Новенькіх размеркавалі... — пачаў было Фелікс даклад.

— Ды я не пра гэта, — перабіў яго Хрыпаты.

— А-а... — сумеўся Фелікс і, скеміўшы, чаго ад яго хочуць, дадаў: — Чарнявую ўладкаваў... На кухню... Каб не застудзіла сваю красу... У тайзе зараз, самі ведаеце... "сваю зялёнавокую", якая ля самых дзвярэй стругала бульбу і галавы не падняла. Хрыпаты незаўважаным быць не прывык і, паставіўшы бот ля міскі з шалупіннем, сказаў: "Вочкі падымі, падружка". Не ўбачыўшы "вочак" і не пачуўшы адказу, ужо заводзячыся,

— Каб цябе халера, тупіца! Кожны раз адно і тое ж!.. Бачыш, кепска мне...

Начлагера яшчэ не паспеў дагаварыць, як Фелікс знік у дзвярах... "Не жылец, — падумаў пра сябе Хрыпаты. Неахвотна падняўся, падышоў да вядра з вадой. Зачарпнуў кубкам, які плаваў у ім, ледзяной вадкасці, пырскнуў сабе ў твар і прахрыпеў: — У-у-х!.."

Халод канчаткова разбудзіў яго. Ён успомніў поўныя нянавісці зялёныя вочы, якія ззялі на вялізнай змяінай галаве, што ляцела на яго... Прысніцца ж такое...

Фелікс стаяў з падносам на парозе і, не міргаючы, як адданы сабака, глядзеў на гаспадара. Прыкмеціўшы "слугу", Хрыпаты прысеў за стол ля акна і махнуў Феліксу: "Давай". "Слуга" ўмомант падляцеў да гаспадара і стаў здымаць з падноса снеданне: хлеб, сала, капусту, гарэлку...

Выпіўшы шклянку "лекаў", начлагера пакрысе стаў ачуньваць пасля "ўчарашняга".

— Ну што там, расказвай...

— Давай-давай, свабодны... Ідзі, дай паесці, — супакоіўся начлагера, пачуўшы, што ўсё ідзе па плану... Урэшце, як заўсёды...

Калі Фелікс пайшоў, Хрыпаты наліў яшчэ,"хукнуў", выпіў, паглядзеў на ежу, але закусваць не стаў: пасля такога сну кавалак у горла не лез. Перад вачыма стаяла чарнявая... "Трэба праведаць", — падумаў ён, кульнуў яшчэ і пачаў апранацца...

Нырнуўшы ў пякуча-марозную раніцу, начлагера прайшоў варту і апынуўся перад плацам, на якім часам ад нудоты "трэніраваў" некаторых "асабліва разумных". Пазачора адзін такі разумны, "заходнік", Язэпам клікалі, тут і загнуўся... "Але спачатку, вырадак, — мацюкнуўся Хрыпаты, — ледзь мяне ў магілу не загнаў на халадзе..."

Начлагера перайшоў плац, абагнуў сталовую і накіраваўся да тыльнага ўваходу на кухню... Убачыўшы ў "падсобку", Хрыпаты ледзь не збіў ён дадаў па-іншаму: "Устань, сука!.."

Дзяўчына не выцягнулася, як патрэбна было, "у струнку", а павольна прыўстала і пачала прадстаўляцца па статуту: "Зняволеная..."

— Хопіць, хопіць, — прымірыцельна перабіў яе Хрыпаты, убачыўшы звычайную на такія словы рэакцыю, — сядай, працуй, не мітусіся. Але нечакана схапіў яе за падбародак і прашыпеў: "У дзевяць да мяне. Зразумела"? У дзевяць... Дзевяць нуль пяць буду лічыць спазненнем... Ты, я думаю, ужо ведаеш, што спазненне ў нас — як непадпарадкаванне, як крок улева, крок управа... Ведаеш?.. Добра, працуй... І памятай — у дзевяць..."

Яшчэ ўчора, калі зялёнавокай паведамілі страшэнную навіну і гэтым забілі ўсе яе надзеі на вяртанне ў мінулае, на вяртанне ў шчасце, яна амаль перастала разумець, што адбываецца... Чаму яна тут?.. Дзе гэта — "тут"?.. Зэчкі і зэкі, што бегалі навокал, "вертухаі",

**Леанід МАРАКОЎ**



# Сяргей КАВАЛЬЧЫК: «ТЭАТР — БАРОМЕТР ЖЫЦЦЯ»




**аўтараў. Сучасная драматургія цябе не цікавіць!**

— Мяне вельмі прыцягвае класічны перыяд, у прыватнасці, эпоха Адраджэння, час, калі тэатр стаў культавым мастацтвам. Вось і апошняя мая работа таксама "класічная" — "Узнагарода жанчыне, або Утаймаванне ўтаймавальніка" па Джону Флетчару. Нягледзячы на сваю парадыйнасць, п'еса вельмі жыццёвая і сучасная, яна пра тое, што чалавеку неабходна пабароць свой унутраны дэспатызм і тыранію.

Увогуле няважна — будзеш ты ставіць сучасную або класічную п'есу, бо тэма ўсё роўна будзе сучасная.

**— Які твой любімы спектакль!**

— "Чыё дзіця ў саквояжы?" па п'есе Оскара Уальда "Як важна быць сур'ёзным". Па сваёй прыродзе, псіхафізіцы гэта "мой" аўтар, мой погляд на свет, магчыма, таму і лічу гэты спектакль найбольш удалым.

**— Што прымусіла цябе, аўтара такіх светлых і добрых спектакляў, займацца праблемнай дакументалістыкай!**

— Можна сказаць, дакументалістыка — гэта тое, пра што я не магу маўчаць. Разам з незалежнай студыяй "Люм'ер" зняты дзве дакументальныя кінастужкі — "Тэрыторыя па-за свабодай" (1997) і "Наркаманія" (1999). Апошняя ў пазаконкурсным паказе ўдзельнічала ў Маскве ў фестывалі "Правапарадак і грамадства".

**— І, наколькі я ведаю, выклікала неадназначную рэакцыю!**

— Наркаманія становіцца нормай нашага жыцця. І гэта страшна. У тым жа сумна вядомым Светлагорску кожны дванаццаты — наркаман. На 75 тысяч жыхароў — шэсць тысяч наркаманаў! Нельга паэтызаваць наркаманію або шукаць у ёй нейкую філасофію. Наш фільм канкрэтна паказвае, як чалавек заганяе сябе ў труну. У ім няма акцёраў, усе факты — рэальныя. Сюжэт — адзін дзень жыцця наркамана. Брудныя прытоны, морг, адчай родных — усё гэта ёсць у фільме. Многія назвалі яго страшным, але, лічу, такім ён і павінен быць, каб не проста ўразіць чалавека, але і надоўга залажыцца яму ў падкорку.

Кажуць, забойства — таксама своеасаблівая наркаманія. Злачынцу, які аднойчы адчуў уладу над чалавекам, цягне да паўтору. Магчыма, пра гэта "Тэрыторыя па-за свабодай". Тэма наркаманіі выклікала ў мяне разважанні пра тое, як увогуле малады несапсаваны чалавек трапляе ў рабства не толькі да наркотыкаў, але і да працы, жыцця. Як гэта разбурае яго душу, унутраную сутнасць, разбурае і блізкіх яму людзей.

**— Кім жа ты сябе лічыш — рэжысёрам тэатра ці рэжысёрам кіно!**

— Для мяне ёсць адна прафесія — рэжысура як спроба зацікавіць шырокага гледача тым, што я спазнаў у жыцці. Я быццам вывучаю рэжысуру ў яе праяўленнях: у кіно вучуся мантажу карцін, у тэатры — спосабу перадачы сюжэта. Адным словам, дакументальныя стужкі як бы тэатралізую, а спектаклі збіраю, як пры мантажы.

**— Ці лёгка сёння быць маладым рэжысёрам!**

— Быць рэжысёрам увогуле няпроста: гэта трэцяя прафесія па ступені складанасці — пасля лётчыка-выпрабавальніка і шахцёра.

Рэжысёр — не проста пастаноўшчык спектакляў, але і носьбіт, генератар ідэй. Ён заўсёды павінен быць "на вышыні" — па ведах, эрудыцыі, кемлівасці. Пры ўсёй гэтай напружанасці — маленькая зарплата і амаль кругласутачная занятасць. Гэта вельмі вострая сённяшняя прафесія, і рэжысёр павінен умець адлюстроўваць сучаснасць. Увогуле, ты альбо можаш ставіць спектаклі, альбо не. А колькі табе гадоў — гэта няважна.

**— Што сёння тэатр дае гледачу!**

— Тэатр — гэта свайго роду рэлігія. Чалавек складаецца з інстынкту і інтэлекту, душы і цела. Чым больш мы працуем на інстынкт, тым большы голад узнікае ў інтэлекта. І каб яго задаволіць, людзі ходзяць у тэатр. Мы разумеем, што ўсё паказанае там — ігра, але захапляемся ёю, і на душы робіцца крышачку цяплей.

Гэта можна параўнаць з тым уздзеяннем, якое на прамерзлага падарожніка аказваюць вогнішча і цёплая гарбата.

**— Якія, на тваю думку, змены могуць адбыцца ў тэатры ў надыходзячым стагоддзі!**

— Зараз наступіў час ідэй, пераасэнсавання назапашанага чалавецтвам вопыту. У тэатры таксама ідзе пошук новых спосабаў падачы ідэй.

Магчыма, нас чакае выкарыстанне ў тэатры сучасных тэхналогій — лазера, кам'ютэраў... А можа гэта будзе вяртанне да тэатра адкрытых страсцей Шэкспіра...

У любым выпадку, я мару пра тэатр, які б збіраў людзей усіх узростаў і дарыў ім цяпло.

**Гутарыла Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

---

усе гэтыя "цені" праносіліся, як сон, у яе ўсведамленні... І толькі цяпер, пачуўшы хрып начлагера: "Устань, сука!", — яна нібы прачнулася. Так яе яшчэ ніхто не называў... Нават у "амерыканцы"...

Ужо ў бараку, даведаўшыся, што начлагера ўвечары ніколі не бывае цвярозым, супакоілася: яна ведала, што будзе рабіць далей...

...Калі "вертухай" вёў зялёнаю да Хрыпатага, Фелікс, сустрэўшы іх, загадкава ўсміхаючыся, нахіліўся да яе і сказаў:

— Вельмі не высільвайся, ён, як заўсёды, ужо "гатовы". Мне што-небудзь пакінь... Я — не ён, я расплачуся... — Зачыніўшы за ёю дзверы, ужо звяртаючыся да стралка, дадаў: — Вочы, га? Так бы і выразаў на памяць...

— Так, — пачухаў стралок патыліцу, — ты б не толькі вочы павырэзваў...

Калі зялёнавокая ўвайшла і ўбачыла, што начлаг спіць, адразу павесялела і з усмешкай прашаптала сама сабе пачутую ў лагеры прыказку: любіць лігача "х" хрыпачага, хрыпатага, падобнага да храка, начхрэна Храпіна... Нічога, сёння ён храпе-хрыпіць апошні раз...

— А-а, — у сне прамармытаў начлагера і заціх... Толькі цяпер зялёнавокая пачула крокі. "Вертухай вяртаецца...", — зразумела яна і імгненна прытулілася да Хрыпатага. Як аказалася, своечасова. Фелікс вырашыў праверыць, як там справы ў гаспадара, асцярожна прачыніў дзверы, але, убачыўшы "заказаную парачку", прабурчэў:

— Усё нармальна... Як заўсёды... Успомніўшы пра навенькіх, ён вырашыў, што час і самому прайсціся па лагеры, прыглядзецца...

Паварушыўшы Хрыпатага і пераканаўшыся, што той у глыбокай п'янай коме, зялёнавокая падзякавала Богу, што ёй не давялося яго спойваць... Асцярожна, стараючыся не трывожыць, яна пачала распранаць Хрыпатага... "Спаць з жанчынай зручней распранутым", — патарала яна, быццам напяваючы...

Начлагера працягваў храпці і голы. Зялёнавокая дастала знойдзеную ячшэ ў вагоне-цялятніку і цудам схаваную падчас вобыску вяроўку і звязала яго... Паглядзеўшы на звязанага па руках і нагах Хрыпатага, яна падумала, што для такога бугая гэтага будзе мала, і прывязала яго яшчэ да ложка.

Ішоў час. Хрыпаты пачаў стагнаць, варушыцца... Дачакаўшыся ягонага здзіўленага "А-а", зялёнавокая заткнула яму рот яго ж рукавіцай. Акацыўшы начлага каўшом сцюдзёнай вады з вядра, каля якога той кожную раніцу "маржаваўся", яна канчаткова прывяла яго ў прытомнасць...

Убачыўшы зялёнавокую, Хрыпаты адразу рвануўся да яе, але, быццам прыдушаны чымсьці цяжкім, не змог нават варухнуцца. "Гэта працягваецца адзін з маіх страшных сноў, — падумаў начлагера. — Нічога... Хутка я прачнуся... Хутка..."

Калі Хрыпаты зразумеў, што ледзяная вада, зялёнавокая і "цяжкае" — гэта не сон, ён паспрабаваў вырвацца, але зноў не змог паварушыцца. Ён шаптаў сабе: "Не. Гэта не сон. Яны прыйшлі... Прыйшлі па мяне... Я ведаў, што яны прыйдуць. Чакаў іх... Тых, каго забіваў... І вось яны тут. Яны прыйшлі па маю душу..."

"Слухай, нелюдзь, — зялёнавокая схапіла Хрыпатага за горла, — калі мяне згвалтавалі ў "амерыканцы" і калі пасля я адчула, што нашу дзіця, я паклялася, што заб'ю сябе, абавязкова заб'ю... Але!.. Але вазьму "туды" з сабой і такога, як ты, вылюдка... Калі ж раптоўна з'явіўся шанц убачыць мужа, я сказала сабе: чакаць! Цярпець і чакаць. Любой цаной дачакацца сустрэчы з мужам. І я спазнілася толькі на дзень..."

Перад вачыма Хрыпатага з'явіўся нож... "Мой нож... Фелікс ім сала нарэзвае, каб танчэй выходзіла... Танчэй — смачней... Вось неданосак, не прыняў нож", — пранеслася ў галаве Хрыпатага... Гледзячы на лязо, якое знікала з вачэй некуды ўніз, начлагера з жахам зразумеў, што задумала зялёнавокая...

Яна адцягнула ягоны адростак і разанула нажом...

Рукавіца выпала з разяўленага ў немым крыку рота, і праз імгненне нечалавечы рык разарваў яе барабанныя перапонкі... Акрываўленымі рукамі яна схапіла Хрыпатага за горла, але не для таго, каб заглушыць яго выццё ці задушыць вылюдка, — яна хацела бачыць ягоныя вочы...

"Цяпер, нелюдзь, я думаю, ты адчуў тое, што давялося спазнаць іншым, тым, што былі да мяне... Тым, каго ты катаваў, гвалтаваў, забіваў... Жыў скацінай, ёю і падохнеш", — прашаптала зялёнавокая ў вочы Хрыпатаму, які ўжо не хрыпеў...

У калідоры пачуўся тупат ног. Нехта бег сюды. "Зноў слузе не спіцца... Гэтая гніда таксама хацела мяне", — успомніла зялёнавокая ягонае абяцанне: "Я не ён, я расплачуся..." Падбегла да дзвярэй, затаілася... У пакой уварваўся Фелікс, і яна кінулася на яго... Нож ужо ўваходзіў у тлустую шыю, калі "вертухай", што ўскочыў за Феліксам, ударам нагі адкінуў яе ўбок. Наляцеўшы на рог стала, зялёнавокая страціла прытомнасць...

...Яна ведала, на што ішла, і цяпер, калі яе, голую, вялі на расстрэл, была зусім спакойная. "Вертухаі" захацелі, каб яна пайшла "туды", як і Хрыпаты... Ведала яна цяпер і тое, што Хрыпаты не жартаваў, калі сказаў, што "грудзі павыпальвае..." Слуга нелюдзя аказаўся вялікім майстрам... Як і абяцаў, ён з ёю разліčыўся...

Холад студзіў агонь абпаленых грудзей... Яна ішла на расстрэл... Яна ведала: ідзе да яго, да свайго бога... Як дзве маленькія далёкія зорачкі, зіхацелі ўначы яе зялёныя вочы...

...Следчая брыгада, накіраваная ў Мінусінск для расследавання абставін забойства начальніка лагернага пункта, да месца прызначэння прыбыла толькі праз тыдзень. Надвор'е затрымала нават усемагутнага монстра...

Начальнік оперчэкісцкага аддзела сядзеў за сталом Хрыпатага, глядзеў праз акно на драцяную агароджу, пастукваў "беламорынай" і думаў: як ёй удалося патрапіць у лагер, дзе адбываў пакаранне муж, але загінуў за дзень да яе прыбыцця? У тым, што яна зрабіла ўсё, каб быць разам з ім нават у адной лагернай ямемагільніку, ён не сумняваўся...

---

## ВЫСТАВЫ



З поспехам прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі выстава "Віртуальны нацюрморт" маладога мастака Уладзіміра Ківачука. У яго працах рацыянальнасць матыва і скрупулёзнасць малюнка суседнічаюць з сюррэалізмам і ірацыянальным пачаткам, што нараджае аўтарскі сімбіёз, які ўласцівы гэтаму мастаку.

НА ЗДЫМКАХ: Уладзімір КІВАЧУК і яго працы.

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**



## ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА




**Зусім нядаўна ў выдавецтве "Юнацтва" выйшла кніга казак беларускага пісьменніка Анатоля ЗЭКАВА "Чатыры зярняткі". У цікавай займальнай форме аўтар запрашае дзяцей у дзівосны свет казачных герояў, апавядае пра розныя здарэнні, што адбываюцца з імі. Кожная казка — гэта своеасаблівы ўрок працавітасці, дабрыні, шчырасці.**

**Дзве з іх мы прапануем сёння ўвазе чытачоў.**



# ЧАТЫРЫ ЗЯРНЯТКІ

**(Казка)**

Раскажу я вам, дзеткі, казку, у якой звычайная завязка.

Рос у вёсцы клён — высокі быў ён. Нават занадта высокі, бо голлем расчэсваў аблокі. Яго так і звалі — хмарачос.

Можа, і неўпрыкметку б клён рос, каб не свавольнік-вецер. Наляцеў неяк пад вечар увосень, зашамацеў у вецці, злосны. І гэтак трос клён заўзята ад галавы-кроны да каранёў-пятак, быццам кол, што абкалаціў яго зярняты. Пападалі яны на дол. А вось чатыры зярняткі падхапіў віхор праклятый, закружыў у золкім паветры за сотні кіламетраў — далёка ад дому, у край невядомы.

За блізкі свет закінуў бы іх свавольнік-забіяка, каб не стаміўся ў *дарозе сам, небарака.* Выбіўся з сіл, ледзьве дыхае ды сапе, вось і кінуў іх: ляціце, маўляў, сабе, куды душа пажадае. Адно што зірнуў з-за небакраю, куды памкнуць зярняткі, а потым і знік без аглядкі — толькі мільганулі пяткі.

А зярняткі-самалёцікі глянулі ўніз — і аж разявілі роцікі: вось дык сюрпрыз! Унізе, пад імі, рэчка бяжыць, як вужака, шыпіць, чорнай хваляй страшыць. Сігнеш у раку звысоку — і болей не ўбачыш аблокаў. Страшнавата стала зярняткам: як тут быць і што рабіць?

— Дацягнем да берага, рабяткі! — гукнулі тры зярняткі.

Чацвёртае ж зярнятка прамаўчала спачатку, а потым выціснула пакутнае:

— Куды хочаце, браткі, а я — у ваду каламутную.

— Чаму так рашыла, скажы?

— Таму што той бераг чужы.

— Зямля там затое, яна — наш ратунак.

— А мне лепей смерць, чым такі вось дарунак.

— Аднак гэта выйсце.

— Я ж хачу плысці.

— Дурное, куды?

— Дзе наша радзіма, туды.

— У плыткай вадзе ты загінеш.

— І ўсё ж гэта лепей, чым жыць на чужыне.

Пасля дыялога такога разышлася ў зярнятак дарога. Тры ўзялі кірунак на бераг, да сасняку; чацвёртае ж з верай сіганула ў раку.

Упала зярнятка на хвалі, і хвалі адразу яго загайдалі, гайдаючы, удалеч пагналі.

Так плыло яно па рэчцы, здавалася, цэлую вечнасць. Датуль плыло зярнятка, пакуль не ўбачыла тыя вясковыя хаткі, ля адной з якіх спакон рос яго бацька-клён.

А тут знянацку перад ім выплыў човен рыбацкі. І раптоўна прыліпла зярнятка да чоўна. На чоўне ўдалося да берага дабрацца, а там і да сумкі прыліпнуць рыбацкай. А калі рыбак ішоў каля клёна, яно і адліпла ад сумкі салёнай.

Убачыў клён зярнятка, стаў цалаваць сваё дзіцятка. Побач з таткам і прарасло зярнятка.

З таго часу так і жывуць разам на свеце — іх нават баіцца сам вецер, які абягае бокам і клён маленькі, і клён высокі.

А як жа тыя зярняткі тры, што паляцелі на бераг круты? Так, так, рабяткі, яны і сапраўды ўратаваліся ад вады. Аднак прызямліліся ў пясок чужацкі звысоку і, хаця казаць пра тое нялёгка, ды ў тым пяску і засохлі. Бо для іх пясок сыпучы стаў пагібеллю немінучай.

Вось такая сумная развязка выйшла для трох зярнятак. А можа, гэта й не казка, а праўда?


Прагулка па Белавежскай пушчы. Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.

# САРОКА-МАНЮКА

**(Казка)**

Жыла-была Сарока. Лётала па лесе зялёным, стракатала без угамону. Але ўсім было вядома, што яе стракоткі-бразготкі — звычайныя плёткі. Як кажуць, чула звон, ды не ведае, дзе ён. І таму яе strokат-крык ніхто не браў у разлік. Хай сабе стракоча, калі ўжо так хоча. А птушкі паслухаюць, за вухам пачухаюць ды зноў за свае справы. Такая была ў Сарокі слава.

І толькі б так цягнулася яно, каб не здарылася няшчасце адно. І за якую такую птушыную кару аднойчы нагнаў вецер на лес хмары ноччу? Хмары ганяе, маланкі шпурляе, бядой пагражае. А гром так грукоча, аж трасецца дом сарочы. І маланкі жахаюць звысоку — проста жах бярэ Сароку.

Сядзіць яна ў гняздзечку, прыціхла — хутчэй бы прайшло гэта ліха! Аднак бяда не мінула гнязда. Сіганула з-пад хмар намочаных — і прама ў гняздо сарочае. І ўспыхнула гняздзечка, і загарэлася, нібы свечка.

Узнялася з гнязда Сарока, па лесе ляціць белабока, ляціць-стракоча ды вяшчае пра жах сарочы:

— Птушкі і птушаняткі, гарыць мая хатка! Хто можа, пачуйце, хатку ўратуйце! Птушачкі-браткі, згарыць мая хатка. Набірайце ў дзюбы вады — і хутчэй да гняздзечка, туды, дзе маланка з-пад хмар мне прынесла пажар!

Чуюць птушкі лямант сарочы, толькі веры даць яму не хочуць. Бо сарочыя плёткі ім вядомыя ўсёткі. Пляткарка-Сарока маніла ім вечна.

Так і згарэла гняздзечка. Датла. А ўсяму і віна, што манюкай Сарока была.

Вось такая мане той цана.

## ГАЛАВАЛОМКА "БУКЕТ"

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| А | М | П | Ф | Й | К | Л | Ц → | Ю | Л | У | Ш | Р ↓ |
| Р → | У | П | Г → | В | А | К | Ў | К | Ь | Л | М | А |
| Х | Ж | А | В | А | Т | І | Д | А | П | Е | Ж | М |
| М | Н | О | П | З | Д | З | Р | Н | М → | І | З | О |
| С | Т | Г | А | Ю | В | Ы | К | Ю | Х | М | П | Н |
| К ↓ | О | Н | Р | Л | А | Ч | І | Я | З | О | К | А |
| А | Б | Ы | К | П → | І | Б | М ↓ | І | А | І | О | К |
| С | А → | С | Т | І | В | Т | А | С | Р | А | Л | Ч |
| А | В → | Я | Р | А | О | Р | К | А → | Р | Х | І | Д |
| Ч | Г | Р | Г | І | Н | О | М | І | Д | З | Я | Э |
| К | С ↓ | О | Я | Н | Я | Д → | З | В | Б | Е | Ц | Г |
| А | Т | І | С | А | І | Б | Ь | О | Ё | В | Й | К |
| Р | А | Ф | А | Н ↓ | Ы | Ж | М | У | Х | А | І | С |
| А | К | Ш | К | Е | Р | А | Я | О | Ё | Э | Ы | І |
| П | Р | О | Т | З | А | Б | У | Д | К | А | Я | М |

**КВЕТКІ: 1. Ружа. 2. Гваздзік. 3. Цюльпан. 4. Рамонак. 5. Гарлачык. 6. Мімоза. 7. Півоня. 8. Астра. 9. Мак. 10. Архідэя. 11. Вяргіня. 12. Стакротка. 13. Дзьмухавец. 14. Незабудка. 15. Касач.**

**Склаў Максім САВЕТКІН.**

## ФІЛАТЭЛІЯ



БелТА.

Аб'яднаннем "Белпошта" ўведзены ў абарачэнне дзве паштовыя маркі, прысвечаныя конкурсу дзіцячага малюнка "Наш родны край у трэцім тысячагоддзі". На марках прадстаўлены малюнкі, якія занялі прызавыя месцы ў конкурсе.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 7

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 3. Тачка. 7. Асоба. 9. Апанент. 11. Прымус. 13. Артыст. 15. Шэсце. 16. Увага. 17. Стажор. 18. Атаман. 19. Такса. 20. Россып. 23. Гарбар. 25. Вугал. 26. Ларок. 28. Карчма. 29. Оптыка. 31. Блізнюк. 32. Ступа. 33. Араты.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Этап. 2. Кант. 4. Камаш. 5. Размеркавальнік. 6. Пераўвасабленне. 8. Сотка. 9. Асэсар. 10. Талака. 12. Робат. 14. Скіба. 21. Опера. 22. Пограб. 23. Гурток. 24. Аміяк. 25. Вочап. 27. Катэр. 28. Каса. 30. Арыя.

**«Голас Радзімы»**

**Галоўны рэдактар Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за мяжой (таварыства "Радзіма").

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 708.
Падпісана да друку 13.3.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).